

№ 7/2016(1058)
ISSN 0320-7579

# Бярозка № 7

## адNака даZui
ЛЁГКА І З СЭНСАМ

## ЯК СТВАРЫЦЬ БЕЛАРУСКІ КОМІКС
ІНСТРУКЦЫЯ

## 24 ГАДЗІНЫ Ў СУТКІ
ЧАС ПРАЦУЕ НА НАС

Фота Алесі Галота
Графіці на вуліцы Кастрычніцкай, горад Мінск

# Гнёзды-рукавіцы і сценкі па 8 см

*Музей прыроды і экалогіі Беларусі прадстаўляе*



Зімародак звычайны занесены ў Чырвоную кнігу. Ён выдатны рыбалоў: у дзюбу можа злавіць да 3—4 рыбін за раз.



Унікальны будаўнік — рэмез звычайны. Птушка звівае два гнязды. Асноўнае нагадвае рукавіцу з недавязаным вялікім пальцам — своеасаблівым уваходам у гняздо. Там самка адкладае яйкі. Побач яшчэ адно гняздо, тут самец і самка адпачываюць. Будуюцца гэтыя гнёзды на галінцы, якая звісае за метр над вадой, каб драпежнікі не маглі разваліць іх.

Асаед звычайны сваю назву апраўдвае — сілкуецца лічынкамі вос, выдзёўбвае іх з зямлі. Каб пракарміць адно птушаня, бацькам неабходна на працягу месяца здабыць пяцьдзясят тысяч лічынак вос. У гэтых птушак вельмі шчыльнае апярэнне і вельмі тоўстая скура, таму, калі кусаюць восы, ім не балюча.



Крыжадзюб-яловік. Форма дзюбы крыжыкам, каб разгортваць лусачкі шышак і захопліваць глыбока пасаджанае насенне. У гэтым насенні так шмат смалістых рэчываў, што яны насычаюць цела крыжадзюба і бальзамуюць яго да такой ступені, што пасля смерці птушка не разлагаецца на працягу чвэрці стагоддзя. Гнёзды будуюць незвычайныя: сценкі таўшчынёй 8 см, ёсць вечка, якое дапамагае падтрымліваць цяпло і сухасць.



*Дзе іх можна ўбачыць: Мінск, вуліца Карла Маркса, 12.*

# 24 гадзіны


Яна Мусвідас

«Вось зразумець не магу, адкуль у цябе так шмат часу? Фільмы глядзіш, кнігі чытаеш, вучышся, яшчэ і асабістае жыццё ёсць», — аднойчы з асуджэннем спытала мая знаёмая. Калі шчыра, на хвілінку я нават адчула сябе вінаватай: добрая палова маіх знаёмых заўсёды скардзіцца на недахоп вольнага часу, а ў мяне яго хоць адбаўляй.

Зразумела, бывае і я ныю, што 24 гадзіны ў сутках недастаткова і лепш бы іх было 36, а то і больш. Але гэтыя думкі знікаюць, як толькі ўпэўніваешся, што ўсе мы ў роўных умовах, і хтосьці з гэтай жа колькасцю часу паспявае УСЁ.

Сучасны свет хутка змяняецца, таму адна з самых карысных якасцей для чалавека нашага часу — гэта хуткасць. Хуткасць не абмяжоўваецца рухам, яна праяўляецца ва ўсім: у думках, кемлівасці, рашэннях. Магчыма, вас трохі абурыць тое, што я сказала. З дзяцінства нас вучылі, што спешныя рашэнні не абяцаюць нічога добрага. Аднак я б рэкамендавала размяжоўваць паняцці «хутка» і «спешна».

Спадзяюся, кожны ўжо не аднойчы сутыкаўся з такім словазлучэннем, як «тайм-менеджмент». Існуе адразу некалькі тэхналогій арганізацыі асабістага часу і павышэння яго эфектыўнасці. На прасторах інтэрнэту досыць матэрыялаў, прысвечаных гэтай тэме, некаторыя сайты нават прапануюць далучыцца да дармовых вэбінараў. Калі шчыра, эфектыўнасць гэтых методык я на сабе не правярала і адказваць за іх не магу.

Так атрымалася, што я сама сабе «менеджар» і мой «тайм» размеркаваны самастойна. Калі мне было 12, я з цікавасцю чытала артыкулы па псіхалогіі поспеху. Мне падабалася раздрукоўваць сабе парады і ставіць птушкі побач з тымі, якія атрымлівалася выканаць. Адна з такіх парад была сфармулявана спецыялістам па матывацыі, Робінам Шармайем, ён абвяшчаў: «Пачынайце атрымліваць задавальненне ад свайго жыцця зараз і ніколі не губляйце момант, каб адзначыць прыемныя падзеі». Так у маім жыцці і з'явілася разуменне таго, што суадносіны працы і адпачынку павінны быць прапарцыянальнымі.

Часта пасля заняткаў ва ўніверсітэце, калі надвор'е добрае, мы з сяброўкай доўга сядзім на беразе Свіслачы: размаўляем, а бывае проста моўчкі слухаем музыку. Думаю, што мая знаёмая, якая вельмі любіць асуджаць, раскрытыкавала б за такую бестурботнасць. Аднак я не лічу, што такім чынам дарма марную час. Перад сном заўсёды чытаю, а па выхадных часта бываю ў кіно або гляджу фільмы дома. Гэта не марнаванне часу — гэта мая ўзнагарода самой сабе за працу і стымул працаваць больш плённа.

Можа быць, я не маю рацыі і мая стратэгія цалкам памылковая, але ў кожнага свае асаблівасці і свае правілы. Зараз усё паспяваю: вучуся і стараюся развівацца ў абранай прафесіі, словам «дэдлайн» мяне не напалохаць, ёсць час і на асабістае жыццё; адмовіцца ад літаратуры і кіно таксама ў мае планы не ўваходзіць. Я лічу, што на тое, што па-сапраўднаму важна, час знойдзецца заўсёды. Галоўнае — разумець прыярытэты.

Я не нявольнік часу, хутчэй час працуе на мяне.


Марыя Страх

# Пра статыстыку, талент і музвыхаванне

Два гады таму я скончыла музычную школу. Сальфеджыа, ігра на фартэпіяна, знаёмства з музычнай літаратурай, сцэна, хваляванне — усё гэта ў мінулым. Але любоў да мастацтва не пакіне мяне ніколі. Музычная школа не толькі дала веды — яна змяніла мае адносіны да жыцця. Кожны яго дзень, напоўнены аксамітам тэмбраў, звонкасцю смеху, мінорам суму, варта цаніць як найпрыгажэйшы мастацкі твор. А калі раптам стомішся ад штодзённага клопату, з лёгкасцю можна забыцца на гэты свет. Бо для музыканта сесці за інструмент — значыць, развітацца з рэчаіснасцю.

Я з захапленнем думаю пра тыя часы, калі музыка была неад'емнай часткай выхавання інтэлігенцыі. Без ведання тэорыі музыкі чалавеку было цяжка заслужыць павагу ў грамадстве. Магчыма, праз беднасць многія таленавітыя людзі так і засталіся невядомымі. На маю думку, гэта адна з самых значных несправядлівасцяў мінуўшчыны. Аднак сёння заняткі музыкай даступныя кожнаму. Чаму ж скарачаецца колькасць навучэнцаў мастацкіх школ?

Калі я вучылася ў музычнай школе, я шмат разоў назірала адну і тую ж карціну. Бацькі прыводзяць дзетак на ўрокі музыкі. Спачатку ўсё цудоўна. Дзеці з захапленнем глядзяць на інструменты, асцярожна датыкаюцца маленькімі пальчыкамі да клавіш або струн, з задавальненнем «малююць» скрыпічныя ключыкі. Потым разбіраюцца першыя п'ескі, левая рука злучаецца з правай, нарэшце — першы канцэрт. Дзеці зразумелі, што музыка — самая лёгкая рэч на зямлі, а бацькі паверылі, што жывуць у адной хаце з геніем. Але шлях музыканта не можа быць лёгкім вечна. Чым больш падрастае дзіця, тым больш узрастае адказнасць. Сальфеджыа становіцца складаным, эцюды і гамы патрабуюць большай затраты часу. Вось тут і наступае расчараванне. Дзіця смела заяўляе, што ненавідзіць музыку. А бацькі… А праўда, што робяць бацькі? На жаль, пасля некалькіх «сур'ёзных размоў», здаюцца.

Дзецям не растлумачылі: «Музыка — гэта не цяжар, а падарунак. Сотні дарослых людзей не ўмеюць іграць, а ты, маленькі, умееш. Для цябе адчынены дзверы ў магічны свет, твая фантазія занясе цябе ў любую кропку свету. Але для гэтага неабходна крыху пастарацца, папрацаваць…»

Не, я не веру, што ў нашым жыцці не засталося месца для прыгажосці.

Я не веру, што ты настолькі слабы, каб спыніцца на сярэдзіне шляху.

Я не веру, што ты пакінеш твор, не даіграўшы яго да канца.

Ды і навошта пакідаць? А раптам ты той, адзіны…

# АдNaka даZui

«Зайграй, зайграй, хлопча малы, і ў скрыпачку, і ў цымбалы», — менавіта гэтыя радкі, напісаныя Паўлюком Багрымам у XIX стагоддзі, лепш за ўсё адлюстроўваюць беларускую душу. Тонкая, як скрыпічная струна, яна заўсёды імкнецца да мелодыі, якая аказвае ўплыў на ўсе сферы жыцця.

Шчыра кажучы, яшчэ не так даўно я глядзела на сучасную беларускую музыку з непрыкрытым скептыцызмам. Я вырасла ў сям'і музыкаў, таму лічыла, што ведаю гэтую кухню знутры. Шчаслівая, што памылялася.

На нашай эстрадзе можна знайсці выканаўцу на любы густ і манер, выбар неабмежаваны: ад рок-гуртоў са шматгадовым вопытам, такіх, як Neuro Dubel, да маладых альтэрнатыўных, напрыклад, «Вішнёвы торт». Інтэрнэт мільгае паведамленнямі аб выканаўцах, якія збіраюць сродкі на новыя альбомы праз краўдфандынгавыя платформы. У такім жа становішчы знаходзіцца Лявон Вольскі і гурт «Стары Ольса».

Я хачу расказаць пра тых, хто ў 2016 годзе ўжо паспеў выпусціць альбом і заваяваць маё сэрца.




**Выканаўца:** гурт Naka
**Назва альбома:** «Мая Малітва»
**Мова:** беларуская
**Колькасць песень:** 10

Свой новы альбом гурт Naka выклаў у сеціва ўжо ў студзені гэтага года. Аднак афіцыйная прэзентацыя адбылася вясной у адным з мінскіх клубаў.

Назва альбома супадае з назвай адной з песень — «Мая Малітва». У выкананні гурта песня на вершы Янкі Купалы набыла зусім іншае гучанне.

Не абышлося і без выпрабаванняў: за час стварэння «Маёй Малітвы» гурт перажыў абнаўленне складу і нават судовы працэс. Але галоўнае — прадукт, які мы бачым у выніку. Калі вы любіце музыку пацяжэй і ваша слабасць — электронныя інструменты, то раю спампаваць новы альбом гурта Naka, ён шырока даступны на прасторах Інтэрнэту.

### Цікавостка

*Вядомая песня «Happy Birthday to You» дагэтуль знаходзіцца пад абаронай аўтарскіх правоў. Яе можна бясплатна спяваць у звычайным коле: у сям'і або сярод сяброў. Але за камерцыйнае выкарыстанне, напрыклад у фільме або віншавальнай паштоўцы, неабходна плаціць адлічэнні.*



**Выканаўца:** гурт Sounduk
**Назва альбома:** «Сом»
**Мова:** беларуская, руская
**Колькасць трэкаў:** 16

У якасці платформы для анлайн-прэзентацыі свайго альбома група Sounduk абрала сайт tut.by, а «жывое» выступленне прайшло ў Доме афіцэраў.

Адметнай асаблівасцю «Сома» стала яго двухмоўе. Альбом выйшаў адразу на некалькіх дысках: на адным восем песень на рускай, на другім — восем на беларускай.

Гурт здзіўляе прыхільнікаў не толькі цудоўным гукам, але і мноствам невялікіх відэа. Салістка групы — Ганна Хітрык — актыўна працуе над іміджам сваёй каманды і яе выключнасцю.

Дынамічнасці і разнастайнасці настрояў гэтага альбома застаецца толькі пазайздросціць. Лёгка і з сэнсам.



**Выканаўца:** гурт Shuma
**Фотаздымак альбома** «Сонца»
**Альбом:** «Сонца»
**Мова:** беларуская

Свой дэбютны альбом пад назвай «Жніва» Shuma выпусцілі ў 2015 годзе. Па выніках Experty.by, гэты альбом перамог у намінацыі «Альбом года» і заваяваў яшчэ шэраг узнагарод.

Музыкам слава не закаламуціла вочы, і яны не спыніліся на дасягнутым.

Новы альбом яшчэ больш электронны і груввы. Прэзентацыя «Сонца» выглядае як адзін вялікі перформанс.

Свежы альбом даступны на асабістым сайце гурта.

Фальклорныя матывы ў міксе з сучаснымі музычнымі эфектамі заваюць сэрца кожнага, хто адчувае кліч крыві, але не адстае ад тэндэнцый часу.




**Выканаўца:** Зміцер Вайцюшкевіч & WZ-Orkiestra
**Назва альбома:** «Камета»
**Мова:** беларуская
**Колькасць трэкаў:** 12

Гэтым разам Зміцер Вайцюшкевіч вырашыў парадаваць сваіх слухачоў coverамі, але, як мы ведаем, у гэтага выканаўцы заўсёды ўсё напоўнена глыбокім сэнсам, а не толькі павевамі часу. Альбом песень славутага чэшскага барда Яраміра Ногавіцы, перакладзеных на беларускую, атрымаўся выдатным.

У стварэнні «Каметы» ўдзельнічала цэлая каманда музыкаў. Тут і жывая гітара, і баян, і басэтля, і нават кларнет, — гэта яшчэ далёка не ўсе інструменты.

Папулярныя песні атрымалі новы глыток прасалоды і сталі бліжэй беларусам. Альбом распаўсюджваецца на CD-дысках.




**Выканаўца:** Zui
**Альбом:** «Вопрос»
**Мова:** руская
**Колькасць** трэкаў: 11

Як бы я не старалася застацца непрадузятай, альбом гурта Zui, безумоўна, мой фаварыт у гэтым годзе. Лёгкія і іранічныя песні, выкананыя прыемным жаночым голасам, перашкодзяць сумаваць любому, нават самаму маркотнаму, чалавеку.

Пасля таго, як я паказала песні гурта сяброўцы, штодня чую: «Самого толстого мальчика в школе выбрали на роль Питера Пэна…»

Першапачаткова Zui былі сямейным дуэтам, у склад якога ўваходзілі муж і жонка Алена Зуй-Вайцяхоўская (вакал) і Міхаіл Зуй (песні, гітара), але на гэты момант калектыў уяўляе сабой сапраўдны гурт.

Дарэчы, для Zui гэта дэбютны альбом.

Я з нецярпеннем буду чакаць новых трэкаў, спадзяюся, вы далучыцеся да майго захаплення.

***Яна Мусвідас***



# Кніга — душа

Вам калі-небудзь даводзілася не згаджацца з меркаваннем Вялікіх людзей? У кожнага ў жыцці свае Вялікія людзі: для Майкла Харта гэта Ісаак Ньютан, Буда, Канфуцый, для маёй бабулі — жанчына, якая нарадзіла шасцёра дзяцей. Вясной-2016 я дазволіла сабе не пагадзіцца са словамі Уільяма Шэкспіра. У сваім Санеце 147 ён піша: «Каханне — хвароба. Мая душа хворая...» І далей кажа пра тое, што гэтую хваробу не вылечыць. Але ў Сярэднявеччы для лячэння ў асноўным выкарыстоўвалі святую ваду з гаючымі зёлкамі. Каханне трыпутнікам вылечыць нельга! А чым можна? Кожны выпадак індывідуальны і патрабуе адмысловага разгляду. У перыяд, калі ў мяне было неўзаемнае каханне, мне «выпісалі рэцэпт» на адну кнігу. Я не стала праглядаць анатацыі і рэцэнзіі на яе, да чытання мяне падштурхнула цытата: «Чорная паласа часам становіцца ўзлётнай».

Пра пакутнікаў кахання піша ў сваіх раманах Эльчын Сафарлі.




**«Калі б ты ведаў»**

Думкі наконт гэтай кнігі разыходзяцца: адны лічаць яе звычайным бульварным раманам, іншыя кажуць, што кніга вярнула іх да жыцця. Назавём яе: «Бульварны раман, які вяртае да жыцця». І ён пра тое, як чалавек, які страціў цікавасць да рэчаіснасці, спрабуе сабраць сваё жыццё па кавалачках, склеіць сваё разбітае сэрца. Сюжэт пра хворую на рак дзяўчыну, ад якой адвярнуліся блізкія людзі. Яна, спустошаная, з'язджае ў іншую краіну — дажываць апошнія дні... І тут я замаўкаю. Дадам толькі адно: гэтая гісторыя не пра хворую дзяўчыну. Гэтая гісторыя пра звычайнага чалавека, які шукае адказы на пытанні: як прымірыцца са стратай? Ці лечыць час? Як доўга чакаць выздараўлення?

Калі чытала кнігу, думала, што аўтар — жанчына. Сур'ёзна, якія асацыяцыі ў вас узнікаюць з імем Эльчын Сафарлі? Амерыканка якая-небудзь... Аўтар — малады мужчына, прафесійны журналіст, які нарадзіўся ў Баку, доўгі час жыў у Стамбуле. Але як дакладна ён апісвае пачуцці жанчыны! Мае пачуцці! Нібы яму даводзілася заглядваць у галовы лепшай паловы чалавецтва, сачыць за думкамі. Ён умела ператварае мастацкую літаратуру ў кнігу рэцэптаў.

Кожную старонку рамана міжволі пачынаеш разбіраць на цытаты (часам здаецца, што іх там зашмат), выбіраць лепшыя з выразаў Сафарлі — бессэнсоўна. Вось выпадковая тройка:

*1. «Жанчыны — прыроджаныя мастакі-дэкаратары. З пэндзлем у руках і мальбертам у прыдачу. А мужчыны для нас часам чыстыя палотны — малюем, размалёўваем, дзесьці падціраем, штосьці замазваем. Толькі вось, як правіла, у выніку высвятляецца, што мы малюем не з натуры, а на ланцужку фантазій і жаданняў: і вось яна — суцэльная неадпаведнасць з рэчаіснасцю».*

*2. «Але ні адна любоў не праходзіць бясследна — вось яе галоўная асаблівасць. І яна робіць цябе толькі лепшым, ніколі — горшым».*

*3. «А гэта ж вельмі важна — адчуць і прыняць надвор'е адзін аднаго».*

Многія агітуюць: «Кожны павінен прачытаць гэтую кнігу!» Я не буду нічога вам раіць, але часам у жыцці бываюць цяжкія сітуацыі, з якіх, як здаецца, нельга знайсці выйсце. Бяздзейнасць — не лепшае з рашэнняў. Магчыма, кніга стане вашым першым крокам у барацьбе са складанымі абставінамі.




**«Мне цябе абяцалі»**

Мне, як дзяўчыне, было цікава прачытаць прызнанне мужчыны, які знайшоў Адзіную. І страціў яе. Аб гэтым прызнанні кніга «Мне цябе абяцалі» Эльчына Сафарлі.

Хлопца звалі Надвор'е. Так-так, не здзіўляйцеся. Надвор'е страціў у ДТЗ сваю жонку і ненароджанае дзіця. Як ён спраўляецца са стратай? Як гэта адбываецца ў мужчын? Нас заўсёды прыцягвае шчырасць людзей. Аўтар вельмі сумленна і адкрыта расказвае пра сваё жыццё. «Мне цябе абяцалі» пачынаецца з эпіграфа: «Гэта я. Хавацца і хлусіць, што гэта ўсяго толькі вобраз, смешна». Сафарлі апісвае пакуты галоўнага героя і тое, як ён іх пераадольвае. Першую палову кнігі вы падзяляеце пакуты Надвор'я, другую палову — выблытваецеся разам з ім. А канцоўка... Напэўна, happy end быў бы нелагічным і штучным. Але гэта не значыць, што ўсё заканчваецца дрэнна: усё заканчваецца так, як яно і павінна скончыцца. Спойлер: працяглы прысмак ад чытання — здабыццё надзеі.

У кнізе практычна няма сапраўдных імёнаў, а толькі Журавіны, Афрыка, Рыжая, Вадаспад, Надвор'е, Лісяня. Тлумачэнне гэтаму Эльчын дае ў канцы апавядання. І тут таксама мы сустракаем багацце даволі прыгожых цытат:

*1. «Удар у спіну часцей за ўсё наносяць тыя, каго абараняеш грудзьмі».*

*2. «Правільнага выбару ў рэальнасці не існуе — ёсць толькі зроблены выбар і яго наступствы».*

*3. «Людзям, якія цябе атачаюць, лёгка сказаць: "Не прымай блізка да сэрца". Адкуль ім ведаць, якая глыбіня твайго сэрца? І дзе для яго — блізка?»*

Ці пашанцавала героям гэтых кніг? Жанчыне і Мужчыну. За магчымасць выпрабаваць пачуцце, якое пачынаецца на літару «К», яны заплацілі вялікую цану. Хто гэта вырашае — жывём мы доўга і шчасліва ці адчуваем гора, якое немагчыма перажыць?!

***Марына Шантыр***

# Па шчасце ў краму




Амаль паўтара стагоддзя таму, у 1883 годзе, выйшаў раман Эміля Заля «Жаночае шчасце». За гэты час твор экранізавалі пяць разоў. Апошняя, скончаная ў 2013 годзе работа, нягледзячы на занадта вольнае прачытанне («пераезд» дзеяння з Францыі ў Вялікабрытанію, адсутнасць некаторых герояў, памяншэнне памераў крамы), лічыцца лепшай. Перакanацца ў гэтым ты зможаш, паглядзеўшы серыял, які, дарэчы, складаецца з двух сезонаў. А я пакуль, каб зацікавіць, раскажу пра лёсы гераінь і пра ўрокі, якія можна вынесці з іх.

## Урок ад Дэніз
## Пад ляжачы камень вада не цячэ

Правінцыялка Дэніз прыехала да дзядзькі ў горад, каб уладкавацца на працу. А ў адказ пачула, што працы для яе няма — Эдмунт сам сядзіць без справы, і ўтрымліваць дзяўчыну ён не мае намеру. Але Дэніз і не думае хвалявацца: на наступны дзень яна ідзе ў велізарную ўніверсальную краму «Жаночае шчасце» і атрымлівае пасаду прадавачкі.

У інтэрнэце Дэніз чамусьці параўноўваюць з Папялушкай. Мне такое супастаўленне здаецца недарэчным: гераіня рамана, у адрозненне ад сваёй казачнай «сястры», не спадзяецца на фею. Дзяўчына з першага дня працы прапаноўвае ідэі па паляпшэнні крамы і неўзабаве заваёўвае павагу ўсяго калектыву «Жаночага шчасця».

## Урок ад Кэтрын
## Двойчы на адны граблі не наступаюць

Жыццё Кэтрын Глендэнінг — выдатны прыклад таго, што шчасце немагчыма купіць ні за якія грошы. Уладальнік крамы Морэй заляцаецца да яе, але толькі



з-за бацькі гераіні, банкіра, які можа даць такі патрэбны ўладальніку крэдыт. У нейкі момант дзяўчына разумее, што да чаго, але не кідае кавалера, а спрабуе ажаніць яго з сабой. Ці трэба казаць, што шчаслівым такі шлюб назваць будзе цяжка? У другой частцы сітуацыя паўтараецца: Кэтрын выходзіць замуж за заможнага Томаса Уэстана. Дзяўчына зноў акунаецца ў каханне з галавой, але аддачы, на жаль, не атрымлівае. У выніку ўсё зводзіцца да таго, што яна пачынае баяцца свайго мужа.

На мой погляд, праблема Кэтрын заключаецца ў ёй самой. Яна ўвесь час спрабуе завалодаць нечым недаступным, прапускаючы міма годных кандыдатаў, закаханых у яе. Яе навязванне здаецца дурным і неразумным. І нават спробы бацькі спыніць дзяўчыну не прыносяць плёну, бо Кэтрын упэўнена: калі ахінуць мужчыну любоўю і клопатам, ён абавязкова закахаецца.

## Урок ад міс Одры
## Ніколі не позна пачаць усё спачатку

Дама высокай маралі і годных манераў, мабыць, міс Одры з'яўляецца маім любімым персанажам серыяла. Яе выразы твару і фразачкі тыпу «Дзеванькі, стаяць без працы — самы вялікі грэх» выклікаюць усмешку і цалкам перадаюць дух таго часу. Аднак не варта думаць, што начальніца аддзела жаночай вопраткі не мае сакрэтаў. Усе дваццаць тры гады працы ў «Жаночым шчасці» яе не пакідае думка, што яна магла б быць шчаслівай у шлюбе. У маладосці Одры не прыняла прапанову выйсці замуж, бо была пераканана: жанчына павінна выбіраць нешта адно — ці сям'ю, ці працу.

Сталы ўзрост і хвароба прымусілі змяніць прыярытэты. Цяпер яна сама адпраўляецца да любага (якім, дарэчы, з'яўляецца дзядзечка Дэніз) і просіць ажаніцца з ёй…

## Урок ад Міртл
## З прыслугі ў лэдзі

Кухарка Міртл літаральна жыве ў Царстве рондаляў і патэльняў, марачы выйсці ў свет і паўстаць перад усімі важнай дамай. Праўда, з гэтага жадання смяюцца: жанчына неадукаваная, трохі разбэшчаная, вульгарная ў выразах. Хто ж такую паставіць у адзін з аддзелаў крамы? Але Міртл не здаецца і спрабуе ўсім сказаць: толькі дайце шанц — я дакажу, што ані не горш распешчаных кабетак-пакупніц. Калі ж шанц з'яўляецца — у выглядзе магчымасці выносіць гарбату ў аддзел гатовых сукенак, — жанчына губляецца і ўцякае. Але, на шчасце, яе гісторыя таксама заканчваецца хэпі-эндам. Хоць момант узаемаадносін з кладаўшчыком у серыяле раскрыты не цалкам, недарэчныя спробы Джонаса прыцягнуць да сябе ўвагу і загадкавыя ўсмешкі Міртл даюць нам надзею на тое, што пара знойдзе патрэбныя словы і яны нарэшце прызнаюцца адно аднаму ў пачуццях.

***Сяргей Грудніцкі,***
***СШ № 66, Гомель***

# Няправільнае лета

Аўтар рубрыкі
Ліна Багданава



Тое, што лета яму трапілася няправільнае, Лёнька зразумеў на другім тыдні вакацый. Але ўсю сутнасць яго крыўднай няправільнасці ўсвядоміў толькі ў канцы месяца. І ён яшчэ збіраўся змагацца! Дурань! Наіўны малалетка з амбіцыямі. Або без іх.

— Лянота, ну чаго ўпіраешся, — моршчыўся бацька, якому да чорцікаў надакучылі сапраўдныя комплексы. — Ты вырас — пара адставіць дзіцячыя свавольствы і перайсці да самастойнага тынэйджарскага жыцця. Тынэйджарскага — ты толькі ўслухайся — гучыць, як песня! А за гукамі рушыць услед займальны змест.

— Сярожа, — ківала галавой засмучаная Лёнькавай упартасцю мама, — можа, не будзем праспешваць падзеі. Бо ніхто нікога не прымушае сталець раней часу. Можа, хлопчыку лепш відаць, калі і як пераходзіць у падлеткавы ўзрост. Можа, яму ў дзяцінстве падабаецца…

— Скажыце, калі ласка, колькі любові і пяшчоты тоіцца ў вашым бясконцым «можа», спадарыня! Ды з такой пазіцыяй вы яго да пенсіі грудзьмі карміць будзеце!

— Сярожа! — Успыхнула мама...

А Лёнька ўцісну галаву ў плечы і пайшоў у свой пакой. Ён быў разгублены і злаваўся. І на тату з яго прамалінейнасцю і салдафонскім (як сцвярджала мама) гумарам. І на маму з яе хранічным сіндромам квактухі. І на сябе. Таму што надышоў час стаць больш дарослым, а сталець не хацелася. Маці казала праўду — Лёньку падабалася ў дзяцінстве, дзе ўсё проста і зразумела, і даўно абжыта —

але як жа ён ненавідзеў гэтую мамчыну правату. І як ён баяўся, што праўда выйдзе за межы іх утульнай кватэры. Бо тады па вуліцы не пройдзеш — засмяюць сябры-прыяцелі. Мянушак крыўдных напрыдумляюць. З кампаніі выкінуць. А дзяўчынкі... Ох, гэтыя дзяўчынкі...

Лёнька зайшоў у пакой, зачыніў за сабой дзверы. Прыслухаўся: дыскусія на падвышаных тонах працягвалася. Не хутка скончыцца — апошнім часам тата з мамай знаходзілі асаблівае задавальненне ў размовах пра Лёнькавы слабасці. А разам з тым вярталіся і да ўласных. Бач, як заходзяцца. Яму б іх праблемы...

Усё пачалося з таго, што тата замовіў для Лёнькі пуцёўку ў лагер.

— Хопіць па бабулях матацца, — заявіў ён з парога ў адзін далёка не выдатны дзень. — Час асвойвацца ў свеце аднагодкаў.

— Тыпу я не асвоіўся яшчэ, — хмыкнуў уражаны іроніяй сын.

— Ну, у школе і ў гуртках з секцыямі любы дурань сябе добрым малайцом адчувае. А вось у лакальным дзіцячым калектыве, аддаленым ад выгод цывілізацыі і бацькоўскага кантролю...

— Сярожа, гэта што за заявы? — Захвалявалася мама. — Ты куды хлопчыка выправіць збіраешся?

А Лёнька выцягнуў з татавай рукі паперчыну са стракатым малюначкам і прачытаў на адваротным баку незразумелае словазлучэнне «Запрашае «Касмадром»! Так пачалося лета. І ўсе яго няправільнасці. Лета пачалося, а планы, якія ён беражліва выношваў амаль год, парушыліся. І байдан у бабуліным садзе. І вячоркі на старым дубе за сельскай школай. І паход з хлопцамі на Чортава балота. І сустрэчы каля вогнішча. І пошукі панскага скарбу на руінах старой сядзібы.

Бесстаронні інтэрнэт выдаў: дзіцячы аздараўленчы лагер у маляўнічым яловым бары. Магутнасць — 260 дзяцей у змену. Колькасць змен — шэсць. Сталовая на 150 пасадачных месцаў. Клуб. Паласа перашкод. Чым далей у лес, тым страшней.

Дзвесце пяцьдзясят дзевяць незнаёмак і незнаёмцаў, замкнёных у аддаленым ад звыклага жыцця яловым бары, выкладзеных пачкамі па сорак штук у спальнях-казармах, вывешаных на ўсеагульны разгляд на канатах і авоськах паласы перашкод — такое і ў кашмарным сне не прысніцца!

— Ды тут пакуль перазнаёмішся, змена пройдзе. І гэта пры ўмове мірнага існавання. А хто гарантуе гэтае самае мірнае існаванне? Вось менавіта што НІХТО. Выхавальнікам і важатым ужо сапраўды не да таго, расказвалі мне хлопцы, гэтыя небаракі толькі і ведаюць, што сцэнарыі складаюць і касцюмы майструюць.

Так, ён элементарна баяўся. І чужых дзяўчынак-хлопчыкаў, і парадкаў нязведанага інтэрната, і дакладнейшага, амаль школьнага рэжыму, і наступстваў самастойнасці. Ну і што, што яму хутка дзесяць. А ён прывык, што пра яго клапоцяцца, і да выгод, якія падаюць з неба, — смачных сняданкаў-абедаў-вячэраў, памытай і выпрасаванай адзежы, кішэнных грошай, заўсёды гатовых прыйсці на дапамогу сваякоў. Вольнасці, нарэшце! Доўгачаканай, салодкай, вясковай свабоды.

Яму дасталася другая змена. З шаснаццатага па трыццатага чэрвеня. Катастрофа!

— Ты яшчэ вагаешся? — Даляцела з гасцёўні. Сварка бацькоў працягвалася. Ну як ім растлумачыць? Хіба што з дому ўцячы? Або з лагера? Ці бабулі паскардзіцца?

***Бабуля з пруткамі:***

— Ой, галубок, толькі не трэба нікуды збягаць! Ды і чаго бегчы? Насачыняў сам сабе. Іншых дзяцей за вушы ад гэтых самых лагераў не адцягнуць, так ім там падабаецца. А ты іншым уразіўся. Ну і што? Адбудзеш сваё ў тым «Касмадроме» ды і ў вёсцы аб'явішся. Паспееш набегацца, дранікаў паесці. Бацькі цябе вунь як любяць — з-за тваіх капрызаў перасварыцца гатовыя. Хіба гэтак можна? Супакойся, галубок, едзь у свой лагер спакойна. Ніхто там цябе не з'есць. Павер мне — трое ўнукаў у лагерах былі і праўнукі таксама.

***Першакласнік з яблыкам:***

— Мне б таксама было страшна. Я таксама з чужымі спаць у адным пакоі не люблю. І ложак запраўляць. Але неяк справіўся б, не маленькі, сёмы год пайшоў. А вось паласа перашкод мяне зацікавіла. Ох, я б там запаліў! Папрасіць у мамы пуцёўку? Як думаеш, мне не рана?

***Прасунуты старшакласнік:***

— Эх ты, молада-зелена! Знайшоў сабе праблему. Праз лагер практычна ўсе дзеці праходзяць. Некаторыя па пяць-сем гадоў запар у твой «Касмадром» ездзяць, пуцёўкі усімі праўдамі-няпраўдамі дастаюць. І не ў самаабслугоўванні справа, з гэтым кожны спраўляецца без асаблівых цяжкасцей. Разумею, што ты не прывык адразу ў публічны вір кідацца. Прывыкнеш. Карысны вопыт — цяжэй за ўсё ў жыцці мець зносіны з незнаёмымі людзьмі. Вось і патрэніруешся лішні раз. Магчыма, адкрыеш у сабе нешта новенькае.

***Вопытны псіхолаг:***

— Страх перад новымі ўмовамі жыцця і незнаёмай супольнасцю можа ўзнікаць з розных прычын. Асабліва гэта актуальна ў падлеткавым асяроддзі, дзе яшчэ не сфарміраваны неабходныя камунікатыўныя навыкі. Падлетак асцерагаецца падацца недастаткова дасведчаным, сказаць ці зрабіць нешта не так, не здолець знайсці агульную мову з аднагодкамі і дарослымі. Часта страхі бываюць надуманымі, чаканне цяжкасцей звязана ў асноўным з фантазіямі. Патрывожанае ўяўленне малюе непрыемныя падзеі, якія наўрад ці адбудуцца. У выніку падлетак прыбывае на месца з негатыўным стаўленнем да навакольных. Прычынай хваляванняў могуць стаць і індывідуальныя асаблівасці — завышаная або заніжаная самаацэнка, канфліктнасць, агрэсіўнасць, эмацыянальнасць, сарамлівасць. Чалавек становіцца зласлівым, няўпэўненым у сабе. Што рабіць?

Дапамагчы сабе, падрыхтавацца да новых умоў жыцця. Карысна выпісаць у нататніку свае асцярогі і вызначыць, якія з іх не маюць дачынення да рэальнасці, надуманыя. Затым паспрабаваць уявіць кожную прыдуманую сітуацыю ў пазітыве (займальны, між іншым, занятак). Змадэляваць іх на карысць сабе. Замяніць свае страхі коміксамі. Нядрэнна было б скласці спіс уласных добрых якасцей, якімі можна скарыстацца падчас знаёмстваў, — гэта дапаможа падняць самаацэнку і зрабіць першы крок насустрач цяжкасцям. Карысна ўспомніць выпадкі, калі атрымлівалася лёгка знайсці агульную мову з людзьмі, нагадаць сабе аб сваіх поспехах. І ні ў якім разе нельга губляць пачуццё гумару. Людзі, якія ўмеюць са смехам, з жартам выйсці з цяжкага становішча, звычайна ладзяць з любым калектывам. Упэўнена, у лагеры табе спадабаецца. А любімая вёска нікуды не дзенецца — ліпень і жнівень будуць у поўным тваім распараджэнні. Поспехаў табе, Лёнька!

# Падарунак з могілак


Аркаша, прывід

Страшныя гісторыі з нумара ў нумар

У важатую Дашу былі таемна закаханыя ўсе хлопчыкі старшага атрада. Набліжаўся яе дзень нараджэння.

— Давай ёй кветкі падорым! — сказаў Дзімон. — Рамонкі!

— Ды ну, не ўрачыста неяк, — скрывіўся Лёха. — Лепш ружы. Я ведаю адно месца, дзе яны цэлае лета растуць.

— І дзе ж гэта?

— На могілках! Я летась выпадкова да адной магілы выйшаў, калі заблукаў. Там ружы белыя, процьма! А пах!..

Пах сапраўды быў цудоўны. Хлопчыкі ў нерашучасці аглядалі ружовы куст.

— Чыя хоць магіла? — пацікавіўся Дзімон.

— А чорт яе ведае! — паціснуў плячыма Лёха. — Камень вунь як зарос, нічога не разбярэш. Не бойся, рві давай усе!

У лагер вярталіся позна вечарам, нагружаныя букетамі, імкнучыся трымацца далей ад галоўнага ўвахода. Прыпыніліся каля корпуса важатых.

— Вунь яе пакой! — паведаміў Лёха, паказваючы на адно з вокнаў другога паверха. З-за гарачыні яно было адчынена, толькі занавескі баранілі памяшканне ад мошак. — Давай ёй кветкі ў вядры на падаконнік паставім. Яна прачнецца, рассуне занавескі — і: з днём нараджэння, Даша Сяргееўна!

— А як залезці? — паскроб патыліцу Дзімон.

— А па яблыні! Бачыш, галіна амаль да самага акна цягнецца…

Спаць леглі задаволеныя, але заснуць не атрымлівалася, і хлопчыкі пачалі ўспамінаць свой «подзвіг».

— Усё ж трэба было на кусце хоць трошкі кветак пакінуць… — уздыхнуў Дзіма.

— Новыя вырастуць! Каму яны там патрэбны?!

У дзверы паскрэбліся, потым пагрукалі.

— Ты чуў? — здзівіўся Лёха. Вочы Дзімона зрабіліся круглымі. — Каго прынесла?

Лёха неахвотна споўз з ложка і паплёўся адчыняць.

Грук паўтарыўся. Хлопчык адчыніў дзверы ў ноч. Нікога.

— Вельмі смешна! — буркнуў Лёха, зашчоўкваючы дзверы. — Жартаўнікі, блін.

У тую ж секунду пагрукалі зноў — больш настойліва, чым раней.

> *Заканчэнне страшнай гісторыі чытайце ў праекце «Бярозка плюс» на сайце*

# Семантыка айконімаў Нясвіжскага раёна

Падзеі, людзі, рэльеф мясцовасці — шмат розных фактараў спрыяла ўзнікненню назваў населеных пунктаў. Некаторыя з цягам часу мяняліся, некаторыя пад уплывам гістарычных падзей вярталіся. Нас зацікавілі *айконімы* — уласныя назвы паселішчаў. Каб пазбегнуць таўталогіі, будзем выкарыстоўваць і шырокі тэрмін — *тапонімы*, і вузкі — *айконімы*. Разгледзім айконімы ў двух аспектах: словаўтваральным і этымалагічным.

*Аб'ект* нашага *даследавання* — назвы вёсак Нясвіжскага раёна, а *прадмет даследавання* — значэнне гэтых назваў. Мы вылучылі *гіпотэзу*: этымалагічныя і словаўтваральныя асаблівасці айконімаў Нясвіжскага раёна могуць быць вызначаны і апісаны.

**Актуальнасць праекта.** Неабходнасць даследавання выклікана тым, што пытанне этымалогіі тапонімаў Нясвіжскага раёна недастаткова распрацавана. У 2004 годзе вучаніцай нашай школы Кацярынай Крайновай даследаваліся айконімы з дапамогай толькі слоўнікаў рускай мовы. Да таго ж, аналізаваліся толькі назвы вёсак, пазначаныя на найбольш папулярнай карце раёна. Нам гэта падалося недастатковым. Таму такі аналіз з пункту гледжання беларускай мовы набывае самастойную значнасць і патрабуе дадатковых намаганняў. Відавочная неабходнасць аналізу і назваў невялікіх населеных пунктаў, якія не прадстаўлены на карце раёна. Гэта і стала *мэтай* нашай работы, у адпаведнасці з якой *задачы* вызначаны наступныя:

— вывучыць семантычную разнастайнасць айконімаў Нясвіжскага раёна;
— удакладніць і суаднесці тэрміны «тапонімы» і «айконімы»;
— правесці словаўтваральны і этымалагічны аналіз айконімаў;
— параўнаць характарыстыкі мясцовай айканіміі з агульнаславянскімі рысамі, вылучыць асаблівасці;
— скласці і выдаць для школьнага карыстання слоўнік айконімаў раёна.








**Метады даследавання:** метад суцэльнай выбаркі, параўнанне, словаўтваральны аналіз, этымалагічны аналіз, класіфікацыя, сістэматызацыя.

Тапаніміка — раздзел анамастыкі. Згодна з матэрыяламі энцыклапедыі «Беларуская мова» пад рэдакцыяй А. Я. Міхневіча, існуе шэраг разнавіднасцей тапонімаў: гідронімы, урбанонімы, мікратапонімы і інш. Тапонімы з'яўляюцца аб'ектам вывучэння для спецыялістаў розных галін: філолагаў, географаў, гісторыкаў, этнографаў. Некаторыя назвы можна разглядаць у сінхраніі (з пункту гледжання развіцця мовы на сучасным этапе), некаторыя — у дыяхраніі (з пункту гледжання гісторыі мовы).

Па характары аб'ектаў тапаніміка падзяляецца на групы: *аронімы* (назвы гор, раўнін), *спелеонімы* (назвы пячораў), *гідронімы* (назвы рэк, азёраў), *дрымонімы* (назвы лясоў), *айконімы* (назвы населеных пунктаў), *урбанонімы* (назвы ўнутрыгарадскіх аб'ектаў, г. зн. вуліц, плошчаў) і інш.

Для таго каб зразумець значэнне тапоніма на сучасным этапе, па сутнасці, неабходна зрабіць яго марфемны і словаўтваральны аналіз. Такі падыход можа прэтэндаваць на навуковасць і бясспрэчнасць. Пры зацемненай семантыцы неабходны этымалагічны аналіз, зроблены пры дапамозе тлумачальных і этымалагічных слоўнікаў беларускай і рускай мовы. Але аналіз такога роду можа насіць гіпатэтычны і нават памылковы характар, бо не заўсёды ўяўляецца магчымым правільна вызначыць словаўтваральную аснову і — як вынік — семантыку.

Даследаванне айконімаў Нясвіжскага раёна з пункту гледжання этымалогіі носіць у асноўным гіпатэтычны характар і не прэтэндуе на аб'ектыўнасць і бясспрэчнасць.



— У нашым раёне 117 населеных пунктаў, з іх 115 — сельскіх.

— У некаторых вёсках ніхто ўжо не жыве, як, напрыклад, у Мысліве, або пражывае невялікая колькасць жыхароў. Напрыклад, у Дзямідавічах і Пляшэвічах — па 8 чалавек.

— А ў Пагулянцы толькі сем.



— У Хрыпкаве наогул тры (па звестках на 14 студзеня мінулага года).

— Крыўдна не толькі тое, што могуць знікнуць назвы разам з вёскамі, як, Агароднікі, Сінілава, але і тое, што існуючыя назвы скажаюцца, напрыклад, на дарожных шыльдах-указальніках. Мне ўсё жыццё здавалася, што я жыву ў Хвоеве, а яшчэ нядаўна па шыльдзе было «у Хваяве».



— Мы ездзім да бабуліных сваякоў у Грускова, а на ўказальніку — Грускава.

— Летам выправілі: ізноў Грускова!



— А нядаўна, едучы на канферэнцыю, памятаеш, заўважылі, нарэшце, Далкінды замянілі на правільнае Долкінды?

— Што ж рабіць?

— Трэба складаць слоўнік!













Калі прыняць за аснову класіфікацыю, прапанаваную лінгвістам Г. Я. Рылюком у яго кнізе «Истоки географических названий Беларуси», то айконімы Нясвіжскага краю можна аб’яднаць у наступныя семантычныя групы:

1. Назвы, якія адлюстроўваюць раслінны свет, — фітатапонімы: *Лазавічы, Лесуны, Дубейкі, Ліпа, Малінаўка, Грыбаўшчына, Хвоева*.
2. Назвы, якія адлюстроўваюць характар рэльефу: *Астроўкі, Краснагоркі, Каменка; магчыма, Долкінды*.
3. Назвы, якія адлюстроўваюць жывёльны свет, — заатапонімы: *Ракавічы, Петухоўшчына, Казлы, Гусакі, Ужанка*.
4. Назвы, якія адлюстроўваюць надвор’е і клімат: *Студзёнкі*.
5. Назвы, якія адлюстроўваюць працоўную дзейнасць людзей і старажытныя промыслы: *Цагельня, Рудаўка, Клепачы, Смалічы, Асмолава, Чанавічы*, а таксама зніклая вёска *Агароднікі*.
6. Назвы, якія адлюстроўваюць прававыя адносіны: *Баяры, Фальваркоўцы, Панюцічы*.
7. Назвы, звязаныя з воднымі аб’ектамі — гідронімамі: *Зарэчча, Завушша, Заазер’е, Затур’я, Лань*.
8. Назвы, якія адлюстроўваюць умовы жыцця і побыт людзей: *Пагарэльцы, Цякалаўшчына, Прасмыкоўшчына, Малаеды, Нялепава, а таксама Навіны*.

Семантычных груп, згодна з класіфікацыяй Г. Я. Рылюка, значна болей, але мы выбралі толькі характэрныя для нашага раёна.

Ёсць цікавыя і нават дзіўныя назвы, напрыклад, *Прасці*.

Нашы этымалагічныя гіпотэзы будуць грунтавацца на звестках «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы», «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы», «Толкового словаря живого великорусского языка» У. Даля, «Этимологического словаря русского языка» М. Фасмера.

Назвы некаторых вёсак узніклі з-за *характару рэльефу*. Паходжанне тапоніма *Краснагоркі*, мабыць, мае тую ж мадэль, што і апісанае ў літаратуры Краснагор’е, — паселішча, што знаходзіцца на чырвонай/ *краснай*/ прыгожай гары. Згодна з гэтым, назва *Лысіца* таксама мае дачыненне да ландшафту, бо нярэдка ў народзе горы і пагоркі без расліннасці называлі *лысымі*. Паводле этымалагічнага слоўніка М. Фасмера, *лысымі* называлі і жывёл, што нарадзіліся з плямай на лбе. Але гэта версія паходжання менш верагодная, як нам здаецца. А вось

назва вёскі *Нялепава* ўтворана ад слова «*нелепый*» — той, які не адпавядае ўяўленням пра розум, прыгажосць.

Мы звярнулі ўвагу, як працягнулася ўздоўж ракі ад самага яе вытоку вёска *Амлынцы*. Дапусцім, што ў старажытныя часы гэта дазваляла ёй мець мноства вадзяных млыноў, быць «*а млынах*». Раскрыць этымалогію назвы *Альбянка* нам дапамог слоўнік М. Фасмера, у якім аўтар спасылаецца на У. Даля: *альбіт* — выкапні роду палявых шпатаў.




Дзякуючы слоўніку Фасмера становіцца зразумелай і незвычайная назва *Сынгалы*. *Сынга* — чорная качка. Відавочна, што *Сынгалы* — заатапонім, як і словы *Сычы, Сычава*, утвораныя ад назвы птушкі сыч, крык якой нагадвае крык дзіцяці. Дарэчы, падобны айконім *Квачы,* згодна з думкай аўтара тапанімічнага слоўніка В. А. Жучкевіча, паходзіць ад мянушкі *квач* — пляткар, балбатун.

Некаторыя айконімы паходзяць ад *антрапонімаў*. *Ляхі*, паводле Фасмера, — палякі, і такое паходжанне назвы вёскі звязана з гісторыяй дзяржавы Рэчы Паспалітай. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы дае такія звесткі: *ляха́* — невялікая градка. Прымаем і гэту версію як гіпатэтычную. Назва *Супрунавічы* магла ўзнікнуць у гонар яе заснавальніка. Згодна са слоўнікам У. Даля, *супрун* — пануры чалавек або той, хто любіць спрачацца. Да гэтай жа групы гіпатэтычна можа быць аднесена назва *Вайнілавічы*: у слоўніку Фасмера *войнік* — салдат, а таксама ў адным са значэнняў — паляўнічы. Не вельмі пераканальная, але адзіная знойдзеная намі версія паходжання назвы *Касмовічы*: *космы* — пасмы валасоў, звычайна пераблытаныя, ускудлачаныя. Нельга лічыць бясспрэчнай версію паходжання назвы *Юшавічы*, калі карыстацца толькі звесткамі слоўніка У. Даля: *юша* — чалавек, што наскрозь вымак ад дажджу. Больш праўдзівая, на нашу думку, версія, знойдзеная ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы: *юшка* — металічны кружок, якім закладваюць адтуліну ў коміне, каб не выходзіла цёплае паветра; таксама *юшка* — поліўка, рыбны адвар. Магчыма, жыхары гэтай вёскі выраблялі прыстасаванні для печаў або былі неблагімі рыбакамі і ўдалымі кухарамі рыбных страў.

Некаторыя назвы ўзніклі ад *пераважнага ў гэтай мясцовасці дзеяння*. Так, слова *Копцеўшчына*, найбольш верагодна, утворана ад слова *капціць* — рабіць вяндліну, вэндзіць (мяса, рыбу). Такія звесткі мы знайшлі ва ўсіх выкарыстаных намі слоўніках. Загадкавым застаецца і назва *Быхаўшчына*. *Бых* — старажытная форма 1-й асобы адзіночнага ліку ад дзеяслова быць. *Галіць*, згодна са слоўнікамі У. Даля і М. Фасмера, — жартаваць, смяшыць. Але *Галаўцы* хутчэй за ўсё так назвалі ад гала — гібала, прылада для гнуцця дуг, абадоў і палазоў. Не выключаем, што назва магла быць утворана і ад слова *гала* ў значэнні *голае месца, чыстая*


















*прастора,* якое прапануе тлумачальны слоўнік. Назва вёскі *Кохanaвічы* магла узнікнуць або ад слова *кахаць*, або ад распаўсюджанага ў раёне прозвішча *Кохан* — тады гэта антрапонім. Загадкавым засталося для нас паходжанне назвы *Сейлавічы*. Мы змаглі яго суаднесці толькі з дзеясловам *сеяць*. Назва вёскі *Габруны* можа быць утворана ад слова *габа* — шарсцяная тканіна. Магчыма, яе вырабам займаліся жыхары. *Друцькаўшчызна* магла быць так названа ад слова *друка* — рычаг, шост, жэрдка, згодна са слоўнікам М. Фасмера; сукаватая палка, тоўсты кій, згодна з тлумачальным слоўнікам. Магчыма, у гэтай вёсцы калісьці гнулі дугі, палазы, рабілі хамуты. Прамысловай магла быць і вёска, якую назвалі *Мыслiва*, бо *мы́слець* — арнамент на тканіне.



Некаторыя назвы вёсак з'яўляюцца *фітатапонімамі*. Магчыма, да іх можна аднесці назву *Карцэвічы: карча* — ствол дрэва з галінамі, які прынесла плынню, які засеў у іле, корч. У Тлумачальным слоўніку беларускай мовы знаходзім яшчэ адну верагодную версію ўзнікнення гэтай назвы: *карэц* — драўляны ці металічны коўш для зачэрпвання вады ці квасу. Магчыма, такі посуд выраблялі жыхары гэтай вёскі.

Гіпатэтычнай з'яўляецца этымалогія назвы *Мацылеўшчына. Маца,* згодна з матэрыяламі слоўніка У. Даля, — выраб з цеста, які гатуецца падчас яўрэйскай пасхі; валік для афарбоўкі; мера зерня; згодна з данымі Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы, маца — напханая конскім воласам або шэрсцю падушачка, якая ўжывалася друкарамі для набівання фарбай набору. Вёска *Стаўпішча* атрымала сваю назву ад слова *стоўп* — тое ж, што і слуп, калона. Пра паходжанне назвы вёскі *Кунаса* намі знойдзена толькі адна версія: *куна* — ахапак, прыгаршчы.




Айконімы Нясвіжскага раёна былі ўтвораны, як і іншыя айконімы, на аснове агульнай і ўласнай лексікі. Яны пацвярджаюць амаль усе асноўныя асаблівасці славянскай айканіміі.

Першая з іх — масавае выкарыстанне тэрмінаў, якія абазначаюць тып паселішчаў, напрыклад, *Гарадзея* з асновай словаўтварэння *горад-*. Захавалася ў нашым раёне і ўзнікшая ў феадальную эпоху назва *Слабада*. Так называліся пасяленні, якія на пэўны час вызваляліся ад падаткаў і паншчыны. На працягу 17—18 стст. яны страцілі спецыфіку і перайшлі ў разрад звычайных вёсак, а іх агульныя назвы сталі ўласнымі.




Ад агульных назоўнікаў бяруць свой пачатак і айконімы тыпу *Навасёлкі, Фальваркоўцы*. Цікавая гісторыя слова *Навасёлкі*. Відавочна, што ўтворана яно ад словазлучэння *новае сяло*. У раёне 2 айконімы — *Старыя Навасёлкі* (гэта з пункту гледжання граматыкі — аксюмаран) і *Новыя Навасёлкі* (а гэта таўталогія). Але гэта толькі даказвае, што мова народа — гэта жывы арганізм, які пастаянна самаразвіваецца і не церпіць правілаў і абмежаванняў.



Другая асаблівасць славянскай айканіміі — высокая суфіксальнасць. У працэсе даследавання мы вылучылі некалькі груп:

1) назвы на *-ічы(-вічы)* — іх 25;
2) назвы на *-шчына (-шчызна)* — 15;
3) назвы на *-ы(-і)* — 28;
4) назвы на *-а(-я)* —14;
5) назвы на *-ова (-ева)* —12;
6) адад'ектыўныя (якія перайшлі з прыметнікаў) назвы — 3;
7) назвы на зычны — 5.








— Яшчэ Францішак Скарына казаў, што людзі, «дзе нарадзіліся і ўскормлены суць, да таго месца вялікую ласку імаюць».
— Не толькі да месца, але і да яго назвы. Згодна з адной з легенд, князь-паляўнічы заснаваў паселішча на месцы, дзе яму на беразе ракі прыснілася мноства цудоўных сноў. Адгэтуль і пайшла назва Сноў. А па іншай версіі, ён так названы ад слоў «сынаў маёнтак».










З пункту гледжання словаўтваральных марфем, найбольш шматлікімі сярод тапонімаў Нясвіжскага раёна з'яўляюцца групы на *-ічы/-вічы* і *-ы/-і*. Сярод слоў такога роду ў сярэднім па Беларусі словы на *-ічы/-вічы* складаюць 13%, а ў нас у раёне амаль у 2 разы больш — 24%.

Такія айконімы тыповыя для сельскіх паселішчаў. Многія з іх падобныя да прозвішчаў: *Ракавічы, Грыцкавічы, Пляшэвічы, Кудзінавічы, Коханавічы, Дзямідавічы, Мікулічы, Лявонавічы, Жанкавічы,* а таксама *Грыцы, Макашы* і іншыя. Грэчаскія хрысціянскія імёны ва ўтварэнні назваў вёсак выкарыстоўваліся радзей: *Андрушы*.



Да распаўсюджаных і спецыфічна сельскіх адносяцца таксама назвы на *-шчына*. Такіх слоў у сярэднім па Беларусі — 2,25%, а ў нас у раёне 16%, што прыкладна ў 7 разоў больш. Гэта такія назвы, як *Мацылёўшчына, Ганусаўшчына, Грыбаўшчына, Салтанаўшчына, Цякалаўшчына, Фэрбаўшчына, Пукелеўшчына, Кіркаўшчына, Маляўшчына*, а таксама *Друцькаўшчызна*.



Суфікс *-шчына* можна назваць у беларускай тапаніміцы суфіксам агульнасці і множнасці. Ён адносіцца часцей за ўсё да назваў значных тэрыторый, урочышчаў, былых феадальных землеўладанняў. Гэтым суфіксам аформлены этымалагічна зразумелыя назвы параўнальна нядаўняга паходжання, большая частка іх уяўляе сабой або асабістыя імёны і прозвішчы, або назвы ландшафтнага характару. Пад уплывам польскай мовы гэты суфікс вымаўляецца як *-шчызна: Друцькаўшчызна.* Гэта тлумачыцца знаходжаннем тэрыторыі на пэўным гістарычным этапе ў складзе Рэчы Паспалітай.



Дарэчы, самую шматлікую групу, па нашай класіфікацыі, уяўляюць тапонімы з канчаткамі *-ы/-і*. Так, навуцы вядома паходжанне тапонімаў на *-цы/-кі*. У нашым раёне гэта *Пагарэльцы, Грыцы, Галаўцы, Амлынцы, Фальваркоўцы; Тарэйкі, Дубейкі, Аношкі, Гусакі*. Звычайна назвы з гэтымі суфіксамі адносяцца да невялікіх вёсак і часцей за ўсё маюць *патранімічнае* значэнне, г. зн. значэнне прыналежнасці якой-небудзь асобе.







1. |-a| = |a|

2. |a| ≥ 0





(½) d1d2

V=5,000



OLUTE VALUE








-23|+|4|






Іншы раз такімі формамі выражалася прыналежнасць сяла памешчыку, а іншы раз гэтыя формы прымяняліся для перадачы паняцця *спадчыннасці*. Рызыкнём выказаць меркаванне, што такую ж прычыну ўзнікнення маюць тапонімы *Макашы, Андрушы,* магчыма, *Квачы, Сынгалы, Лесуны, Габруны.*

Па нашых падліках, 13% складаюць найменні на *-ава/-ева*. З іх шэсць назваў, г. зн. 7,5% — тапонімы на *-ава/-ева,* а таксама *Мысліва*. Вядома, што назвы з такімі суфіксамі «прыналежнасці» даваліся вёскам па прозвішчах і імёнах іх жыхароў. Такім чынам, назвы на *-ава/-ева* маюць такое ж патранімічнае значэнне, як і словы з фінальнымі фармантамі *-цы, -кі.*

Назвы з *падоўжанымі зычнымі і з суфіксам [й]* служаць звычайна для вызначэння месца, дзе размешчана паселішча: *Зарэчча* (за ракой), *Завушша* (за Ушой), *Заазер'е* [йэ] (за возерам), *Затур'я* [йа] (за Тур'ёй), *Церасполле* (месца, да якога трэба ісці ад дарогі цераз поле).

Невыпадкова, што сярод назваў вёсак шмат назоўнікаў жаночага роду: *Кунаса, Затур'я, Караліна, Ужанка* і інш., бо само слова *вёска* жаночага роду. Адносна маладыя назвы на *-ка*. Аб гэтым сведчыць той факт, што да гэтага часу вёскі з такімі назвамі застаюцца невялікімі. Гэта *Каменка, Альбянка, Рудаўка* і інш.

Невялікую групу тапонімаў складаюць назоўнікі, утвораныя ад прыметнікаў. Гэта больш позняя па часе ўзнікнення айконімы: *Ударны, Новагарадзейскі, Завітая,* а таксама *пасёлак Біязавода.*





Сустракаюцца састаўныя найменні: *Старыя Навасёлкі і Новыя Навасёлкі, Малая Быхаўшчына і Вялікая Быхаўшчына, Новая Лысіца і Вялікая Лысіца, Вялікая Ліпа і Высокая Ліпа, Новы Сноў, Горны Сноў, Дольны Сноў*. Цікава, што не захаваліся аднаслоўныя найменні Лысіца, Ліпа і Навасёлкі, але аўтаномна развіваецца *Сноў*. Дарэчы, *Нясвіж* і *Сноў* — адзіныя ў Нясвіжскім раёне тапонімы мужчынскага роду.

Такім чынам, са словаўтваральнага пункту гледжання айконімы Нясвіжскага раёна адлюстроўваюць спецыфіку славянскай тапанімікі і маюць свае асаблівасці.

Мэта была дасягнута, гіпотэза пацверджана. Складзены слоўнік айконімаў. Распрацаваны электронны слоўнік у выглядзе інтэрактыўнай карты. Маніторынг, праведзены намі, паказаў папулярнасць менавіта электроннай версіі.

Алгарытм карыстання інтэрактыўнай картай наступны.

На карце раёна знаходзім патрэбны сельскі савет, клікаем па ім мышкай, выходзім на карту сельскага савета.

Напрыклад, выбіраем Ліпскі сельскі савет.

Там пазначаны населеныя пункты. Напрыклад, нас цікавіць паходжанне назвы *Завушша*. Клікаем па ім мышкай — перад намі звесткі пра выбраную вёску.



Азнаёміўшыся з матэрыяламі электроннага слоўніка, вяртаемся або на карту сельсавета, або на карту раёна.

Гэта вельмі цікава і займальна і для школьнікаў, і, спадзяёмся, для турыстаў.

***Ангеліна Слабко, Ангеліна Сцяпанава, 7 «А» клас,***
***Мікіта Каліноўскі, 10 «А» клас,***
***Н.М. Сырыца, настаўнік беларускай мовы і літаратуры,***
***І.Р. Віннік, настаўнік рускай мовы і літаратуры, настаўнік-метадыст***
***Сноўская СШ, Нясвіжскі раён***



**СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ**

1. Барашков, В. Ф. Знакомые с детства названия. М., 1982.
2. Беларуская мова. Энцыклапедыя // Пад рэдакцыяй А. Я. Міхневіча. Мінск, 1994.
3. Даль, В. И. Толковый словарь живого великорусского языка: Т. 1—4. М., 1998.
4. Жучкевич, В. А. Топонимика Беларуси. Минск, 1968.
5. Лемцюгова, В. П. Тапонімы распавядаюць. Мінск, 2008.
6. Лыч, Л. М. Назвы зямлі беларускай. Мінск, 1994.
7. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Мінская вобласць. Нарматыўны даведнік. Мінск, 2003.
8. Поспелов, Е. М. Топонимика в школьной географии: Пособие для учителей. М., 1981.
9. Рылюк, Г. Я. Истоки географических названий Беларуси с основами общей топонимики. Минск, 1997.
10. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. Мінск, 1977—1984.
11. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка. В 4 т. Санкт-Петербург, 1996.
12. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. А — Бячэйка (Мінск, 1978). Т. 2. В — Вяшчэль (Мінск, 1980). Т. 3. Г — Ішчэ (Мінск, 1985). Т. 4. К — Каята (Мінск, 1988). Т. 5. Каяць — Ліпанка (Мінск, 1989). Т. 6. Ліра — Маячыць (Мінск, 1990). Т. 7. Мгла — Немарнасць (Мінск, 1991). Т. 8. Немарачь — Паяць (Мінск, 1993). Т. 9. Пе-пе-пе — Праснак (Мінск, 2004). Т. 10. Прасніца — Пяяць (Мінск, 2005). Т. 11. Раб — Саян (Мінск, 2006).
13. Юрэвіч, В. Л. Слова жывое, роднае, гаваркое… Мінск, 1992.











# Чаму пасёлак Праўдзінск так называецца

Я раскажу вам пра ўзнікненне назвы прыгожага пасёлка Праўдзінск, што знаходзіцца ў Пухавіцкім раёне.

Было гэта даўно. Адзін чалавек доўга вандраваў у пошуках лепшага жыцця і аднойчы прыйшоў на месца, дзе сёння знаходзіцца Праўдзінск. Убачыў гэты чалавек раку, возера, поле, лес, балота — добрае месца для паселішча. Тады паклікаў ён сюды сваіх сяброў. Сябрам таксама спадабалася гэтае месца. Пачалося будаўніцтва. Многа было пабудавана дамоў. Пачалі людзі апрацоўваць палі. Буйна на іх каласілася жыта, рос лён. Людзі жылі ў згодзе і шчасці. Праўда, назвы ў паселішча тады не было аніякай.

А яшчэ дамовіліся людзі паміж сабой, што нікому не будуць расказваць, якое цудоўнае тут месца, каб не знайшліся зайздросныя суседзі і не паспрабавалі яго адабраць.

Але жыў у тым паселішчы хлопец Іван, які не ўмеў трымаць язык за зубамі. Паехаў ён неяк па справах у чужыя мясціны ды і пачаў там хваліцца пра шчаслівае месца, дзе жыве.

На другі дзень, калі сонейка яшчэ спала, прыйшлі ў шчаслівае месца злыя і зайздросныя чужынцы. Разбудзілі яны ўсіх жыхароў паселішча і сталі ім пагражаць,

што калі тыя не аддадуць ім гэтае месца, то прыйдуць яны да іх з вайной. «Думайце! — сказалі чужынцы, — Тры дні ў вас на гэта ёсць».

Зразумелі жыхары мястэчка, што хтосьці з жыхароў не стрымаўся і расказаў чужынцам пра іх паселішча. Пачалі высвятляць, хто гэта зрабіў.

Але нічога высветліць не могуць, бо ніхто не прызнаецца. А Іван таксама маўчыць, бо сорамна яму прызнацца. Ды і боязна, бо раззлуюцца ж на хлопца людзі, нават забіць могуць за такую здраду.

І тут выйшаў наперад самы стары і паважаны жыхар паселішча. І сказаў:

— Галоўная наша сіла ў праўдзе. І калі той, хто гэта зрабіў, выйдзе зараз і сам прызнаецца, мы пераможам злых і сквапных чужынцаў. Калі ж ён па-ранейшаму будзе маўчаць — тады мы прайграем і вымушаны будзем назаўсёды пакінуць родныя мясціны.

Не вытрымаў Іван, выйшаў наперад. Са слязьмі на вачах прызнаўся, што гэта ён незнарок такое зло ўсяму паселішчу прынёс.

Разам з праўдай да жыхароў прыйшла сіла. Перамаглі яны ворагаў. А месца, дзе жылі, пачалі з гэтага часу называць Праўдзінск.

***Паліна Шчукіна,***
***5 «Б» клас, гімназія № 16, Мінск***

# Адкуль пайшла назва вёскі Паруці

Паруці — гэта назва вёскі ў Гродзенскай вобласці. Там радзіма маёй бабулі. Цяпер гэта маленькая вёсачка пасярод лясоў і балот. Праз усю яе пралягае брукаваная дарога. Каля хат растуць дубы-волаты. Мне заўсёды хацелася даведацца, адкуль пайшла яе назва. З гэтым пытаннем я і прычапіўся да бабулі. І вось што яна мне расказала.

Калісьці, даўным-даўно жыў тут пан па прозвішчы Паруць. Дрэнны і жорсткі ён быў чалавек. Ледзь хто з прыгонных правініўся, адразу ж загадвае: «Пароць яго! Пароць!» І няшчаснага валакуць на панскі двор, сякуць розгамі або б'юць бізуном.

Магчыма, таму і празвалі людзі пана «Паруць», а вёску ўсе суседзі называлі: вёска пана Паруця. Або карацей — вёска Паруці.

Цяжка жылося людзям, над якімі уладарыў пан Паруць, але была ў гэтага пана слабіна: вельмі любіў ён гуляць у карты. І вось аднойчы прайграў пан Паруць другому пану сваю вёску. І жыццё тамтэйшых людзей адразу змянілася ў лепшы бок. Новы пан ставіўся да сваіх прыгонных значна лепш, чым злосны пан Паруць. Можна было простым людзям нават звяртацца па дапамогу да панскага сямейнага доктара, які лячыў іх амаль бясплатна.

А назва ў вёскі такой і засталася — Паруці.

***Віктар Хмяльніцкі,***
***5 «Б» клас, гімназія № 16, Мінск***



# Віта — гэта Віялета ці Віталіна?

Часта ўзнікаюць пытанні, як правільна скарачаць тое ці іншае імя. Можна Анастасію называць Асяй ці гэта асобнае імя? Калі Слава — гэта і Святаслаў, і Вячаслаў, і Расціслаў, і Баляслаў, то як жа іх адрозніваць? Як растлумачыць Валянціну, што ты меў на ўвазе не будаўнічую прыладу і нават не думаў дражніцца, калі называў яго Валікам?

«Імя чалавека — самы салодкі і самы важны для яго гук на любой мове», на думку Дэйла Карнэгі, амерыканскага педагога, лектара, пісьменніка, аратара-матыватара.

Калі бацькі даюць імя свайму дзіцяці, яны кіруюцца рознымі матывамі. Некаторыя называюць у гонар знакамітага чалавека або сваяка. Таму так шмат сярод нашых знаёмых Іванаў Іванавічаў, Сан Санычаў, невыпадкова сустракаюцца Вікторыі Віктараўны.

Хтосьці цікавіцца перакладам імені з мовы арыгінала. Прагледзеўшы Святцы, мы знайшлі толькі некалькі імёнаў з «непажаданым» сэнсам: Павел — малы, Клаўдзія — кульгавая. А значэнне кораня «андр» як «мужчына, мужны» тлумачыць папулярнасць Андрэеў і Аляксандраў.

Мноства і тых, хто сочыць за павевамі моды. Самае папулярнае дзявочае імя апошнім часам — Сафія. Вельмі добра, калі ўлічыць, што яно значыць «мудрасць». Хлопчыкаў часцей за ўсё называюць Арцёмамі, і не дзіўна: значэнне гэтага імені звязана са здароўем.

Прычынай выбару імені з'яўляецца і тое, ці падабаецца яго скарочаны варыянт. Некаторыя не любяць скарачэнне Соня, бо ў вусным маўленні яно нагадвае не вельмі станоўчую характарыстыку асобы. Такое прыгожае імя, як Емяльян, не вельмі папулярнае з-за народных казак пра Ямелю — не зусім разумнага, гультаяватага. Гераіня чэхаўскага апавядання не любіла называць па імені свайго мужа Восіпа, бо ёй ўспаміналася каламбур «Во́сіп асі́п».

І ўладальнікі імёнаў, і іх блізкія часта спрачаюцца, як правільна скарачаць імёны. Некаторыя патрабуюць або наогул не скарачаць іх імя, або скарачаць толькі адпаведным чынам.

У мове дзейнічае важны закон — эканомія моўных намаганняў. Скарочаныя імёны зручней выкарыстоўваць у якасці зваротаў у побыце, але недапушчальна — у афіцыйных зносінах.

Якія ж адносіны ў вучоных да скарачэння імёнаў? Мы звярнуліся да шматлікіх аўтарытэтных выданняў. Знайшлі слоўнікі, дзе зафіксаваны скарочаныя варыянты імёнаў. Але гэта не нормы, а указальнікі скарачэнняў. Інакш кажучы, аўтары надрукавалі толькі сабраныя імі варыянты, зразумела, не ўсе, што існуюць у мове.

Некаторыя імёны наогул не скарачаюць. Гэта або рэдкія (Багдан, Бажэна, Давыд і інш.), або і так кароткія (Яна, Ягор, Ілья, Ігар і інш.).

Нас зацікавілі тыя імёны, якія скарачаюцца аднолькава. Паводле даследаванняў, праведзеных у нашай школе, Іна — Іна і Інэса, Валера — Валерый і Валяр'ян, Нюша — Ганна і Таццяна, Саша — Аляксандр і Аляксандра, Віта — Віялета і Віталіна, Ната — Наста, Наталля.

Для многіх імёнаў існуе значна больш варыянтаў скарачэнняў, чым паказалі нашы рэспандэнты, для некаторых — больш, чым прадстаўлена ў слоўніках. Мы спыталі вучняў і настаўнікаў, ці згодныя яны, каб іх імёны скарачалі супраць жадання або іншым чынам, чым яны прывыклі. Практычна ўсе адказалі адмовай. Цікава і тое, што некаторыя скарачэнні «дазволены» носьбітамі імя толькі іх матулі ці тату і не «дазволены» нават сябрам.

Праўда, большасць быццам бы скарачэнняў імі не з'яўляюцца, калі меркаваць па колькасці літар. Напрыклад, Ганна — Анюта, Віталь — Віталя, Данііл — Даніла, Алена — Алёна, Ірына — Ірыша, Сяргей — Сярога, Сярожа. Гэта размоўны варыянт імені.

Нас здзівіла пазіцыя юнакоў і дзяўчат, якія спрабавалі даказаць, як трэба ці не трэба скарачаць імёны. Некаторыя спрачаліся: Віталіну нельга называць Вітай, бо Віта — гэта Віялета. Некаторыя настойвалі на тым, што ні Ганну, ні Насту, ні Алесю нельга называць Асяй. Але чаму нельга, калі яны згодныя і ў слоўніках гэта не прадстаўлена як парушэнне?

А можна і Віталіка, і Віктара называць Віцем? Як лічаць навукоўцы-філолагі, рэдактары расійскага часопіса «Русский язык в школе», можна, калі Віталь і Віктар не супраць. І Валерыі могуць звацца Валямі, але большасць з іх аддае перавагу скарачэнню Лера. Дарэчы, калі Валянцін не хоча быць Валікам, мае на гэта поўнае права. А Віталіна (па яе жаданні) можа звацца не толькі Вітай, але і Лінай, і Алінай, і Інай, і ні адна Віялета не павінна рабіць заўвагу.

Памятайце, сябры: нормы на скарачэнне імя няма — скарачаць яго трэба толькі так, як жадае носьбіт. Бо, як адзначала Марына Цвятаева, «можна жартаваць з чалавека, але нельга жартаваць з яго імені».

***Віталіна Віннік,***
***7 «А» клас,***
***Іна Віннік, настаўнік-метадыст,***
***Снюўская СШ, Нясвіжскі раён***

У царкве з Лізай Ліпай

# Што такое просвіра?

Напэўна, з таго самага часу, калі ўзнікла мова, слова «хлеб» гучала і разумелася не толькі ў значэнні прадукту харчавання, яно мела вялікі сэнс. «У поце твару твайго будзеш есці хлеб» (Кніга Быція, 3 глава, 19 верш), некалі сказаў Бог Адаму. Акрамя гэтага слова «хлеб» утрымлівае ў сабе і рэлігійную сімволіку. Гасподзь Ісус Хрыстос казаў пра Сябе: «Я — хлеб жыцця́; хто прыхо́дзіць да Мяне, не зве́дае голаду, і хто веруе ў Мяне, не будзе мець сма́гі ніколі» (Евангелле паводле Іаана, 6 раздзел, 51 верш). Хлеб, які складаецца з мноства зярнят, нагадвае Царкву — адзіную пры мностве яе членаў.

Падчас Тайнай Вячэры, напярэдадні Свайго арышту, «Ісус, узяўшы хлеб і, благаславіўшы, пераламі́ў і, раздаючы́ вучням, сказаў: прыміце, ешце: гэта Цела Маё. І, узяўшы чашу, узнёс падзяку, пада́ў ім і сказаў: пі́це з яе ўсе, бо гэта Кроў Мая́ новага запавету, якая за многіх праліва́ецца дзе́ля адпушчэ́ння грахоў» (Евангелле паводле Матфея, 26 раздзел, 26—28 вершы). Ператварэнне хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыстову і цяпер застаецца асновай таінства Прычашчэння (Еўхарыстыі), якое здзяйсняецца на Літургіі.

Праваслаўная Царква вылучае некалькі відаў асвячонага хлеба, які выкарыстоўваецца на богаслужэнні.



**Просвіра** (ад грэч. **прасфара́** — «прынашэнне») — гэта белы пшанічны хлеб, які пячэцца з дабаўленнем дражджэй і святой вады. Запаведзь пра прынясенне хлеба ў ахвяру дайшла да нас з часоў Старога Запавету. У скініі Маісея (месца пакланення Богу старажытных яўрэяў) знаходзіліся ахвярныя хлябы, якія складаліся з дзвюх частак, што азначала хлеб зямны і нябесны, дзве сутнасці — Божую і чалавечую.

У першыя стагоддзі хрысціянства вернікі самі прыносілі ў храм хлеб, віно, алей, воск для свечак — усё, што патрэбна для здзяйснення богаслужэння. Гэта прынашэнне або ахвяраванне прымалі дыяканы, а імёны вернікаў уносілі ў спіс, які з малітвай абвяшчалі падчас асвячэння дароў. Вернікі прыносілі ахвяраванні, каб імёны іх памерлых сваякоў таксама паміналі ў малітве. З гэтых добраахвотных прынашэнняў (па-грэчаску прасфор) аддзялялася частка хлеба і віна для здзяйснення таінства Еўхарыстыі, з воску выраблялася свечкі, а іншыя дары, над якімі таксама прамаўляліся малітвы,

раздаваліся вернікам. З цягам часу просвірай сталі называць толькі хлеб, які ўжываецца для здзяйснення богаслужэння. Замест звычайнага хлеба сталі спецыяльна выпякаць просвіры ў царкве, а ў якасці прынашэння прымаць муку, посны алей або грошы.

Просвіра складаецца з дзвюх частак, якія вырабляюцца з цеста асобна адна ад адной, а затым злучаюцца разам, чым сімвалізуюць Божую і чалавечую існасць Ісуса Хрыста. На верхняй частцы ставіцца пячатка, якая ўяўляе сабой чатырохканцовы роўнастаронні крыж з надпісамі: над перакладзінай крыжа — ІС ХС (Ісус Хрыстос), пад перакладзінай — НІКА («перамога»). Існуюць таксама просвіры з выявамі Багародзіцы або святых. А яшчэ просвіра, прыгатаваная з мукі незлічонага мноства каласоў, азначае і чалавечую сутнасць, якая складаецца з вялікай колькасці элементаў прыроды, і чалавецтва наогул, складзенага з людзей. Пры гэтым ніжняя частка просвіры адпавядае зямному (цялеснаму) складу чалавека і чалавецтва; верхняя частка з пячаткай — іх духоўнаму пачатку, у якім захаваны вобраз Божы і таемна прысутнічае Сам Дух Божы. Падчас богаслужэння святар вымае кавалкі з просвір як знак малітвы за жывых або памерлых вернікаў.

Звычайна просвіру можна набыць у царкоўнай лаўцы або атрымаць пасля службы (іх раздаюць, калі вернікі падыходзяць пакланіцца да Крыжа).

Абрэзаныя часткі просвіры, сярэдзіна якой (Святы Агнец) была ўзята для здзяйснення таінства Еўхарыстыі, называюцца **анцідо́р** («замест дара»). Перш чым дастаць сярэдзіну, над прыгатаванай просвірай чытаюць малітвы, і кавалачкі анцідора, хоць і ўскосна, але з'яўляюцца элементамі здзяйснення таінства. Таму вернікі прымаюць анцідор як знак Божага благаславення.



**Іаган Кеплер (1571-1630)**

Распрацаваў табліцы лагарыфмаў, першым выкарыстаў элементы інтэгральнага вылічэння, увёў тэрміны «сярэдняе арыфметычнае» і «інерцыя», сфармуляваў першы закон механікі, зразумеў функцыю хрусталіка, апісаў прычыны дальназоркасці і блізарукасці, стварыў схему тэлескопа, адкрыў законы руху планет Сонечнай сістэмы, прадказаў існаванне спадарожнікаў Марса. Як чалавек, які глыбока верыў у Бога, сваю апошнюю працу завяршыў такім малітоўным зваротам да Бога: «Перш чым пакінуць гэты стол, за якім я здзейсніў усе свае даследаванні, мне застаецца толькі, узвёўшы да Неба вочы і ўзняўшы рукі, падзякаваць Стваральніку Сусвету за Яго міласэрнасць да мяне!»



# Лісты да хрэсніка

Прывітанне, мой дарагі!

Даўно я за лісты не садзілася. Летам жа як: то агарод паліваеш, то яго прапалваеш, то траву косіш, то бульбу акучваеш. Не паспелі азірнуцца — ліпень надышоў. Учора вечарам кампанія моладзі прыехала на рэчку Купалле святкаваць. Паўночы гулі-шумелі, праз вогнішча скакалі, у вадзе плюхаліся, песні выкрыквалі. Пад раніцу разбрыліся папараць-кветку шукаць. Зразумела, што нічога не знайшлі і к абеду адбылі туды, адкуль прыехалі. А мы пасля іх смецця мех назбіралі. А потым плот у бабулі Нюры рамантавалі. Аматарам фальклору не хапіла дроў на вогнішча, дык яны ў бабчынага плота пазычылі. І брамку дзеда Ігната на дах хлеўчука закінулі, і лодку перакулілі, і бочку некуды закацілі. Вось не разумею, навошта такое дзікунства. Ну, добра, паганцы святкавалі дзень летняга сонцастаяння. А яны што святкуюць? Калі ты астраном-аматар, купі тэлескоп ды назірай за небам. А любіш цераз агонь скакаць — ідзі ў пажарныя ці на фаер-шоу. А плот у адзінокіх старых навошта ж ламаць? Раней лічылася, што ў Купальскую ноч усялякая нечысць ажывае і трэба яе — вадзянікоў, лесуноў, русалак —асцерагацца. А цяпер нам трэба сцерагчыся аматараў даўніх традыцый.

Але ж у нашага народа ёсць і хрысціянскія традыцыі. Праваслаўныя шануюць Іаана Прадцечу, вялікага прарока, які хрысціў Самога Госпада Ісуса Хрыста ў водах Іардана. Ён стаў апошнім старазапаветным прарокам і першым новазапаветным. Яго называюць пачаткам апосталаў, зямным Анёлам і Нябесным чалавекам, воінам і прапаведнікам пакаяння і Царства Нябеснага, Хрысціцелем і Голасам Слова-Бога. Яго гісторыя вельмі захапляльная. Вы вось шукаеце містыку ў розных напрыдумляных серыялах і камп’ютарных гульнях і лянуецеся прачытаць рэальную гісторыю вялікай асобы. Знайдзі яе ў Евангеллі ад Лукі (1, 5-25; 1, 57-80).

Я табе мо ўжо надакучыла сваімі «знайдзі» ды «прачытай». Але які сэнс пераказваць, калі ў доме ў цябе ёсць Біблія?

Буду свой ліст завяршаць. Мне яшчэ скрыпеню-Іван-чаю нарыхтаваць трэба. У нас, бачыш, кветкі імёны святых маюць.

Напішы мне, куды твой старэйшы брат паступаць будзе — згодна з марай ці дзеля грошай? І як здасць ён экзамены, прыязджайце да нас. Тут летам добра: і лес, і рэчка, і паплаваць, і рыбу павудзіць можна. Ды і нам па гаспадарцы дапаможаце.

Чакаем вас, дарагія нашы.

***З любоўю хросная.***

## Цікавостка

*У 1887 годзе спрынтар Чарлз Шэрыл перад забегам прыняў нізкую стойку, у той час як астатнія лёгкаатлеты стаялі на старце ў поўны рост. Гледачы смяяліся, суддзі спрабавалі пратэставаць, але тым не менш забег адбыўся, і Шэрыл яго пераканаўча выйграў. Так у лёгкую атлетыку ўвайшоў нізкі старт.*

Я — МАСТАК
№ 7

Я вучуся ў беларусаў



# Лічылася «праблемнай» студэнткай Паліна Корзун

— Мне здаецца, мастаком я была заўсёды. Не памятаю, каб хацелася займацца чымсьці іншым. Я, напэўна, больш нічога і не ўмею. Часам хочацца ператварыцца ў вольнага майстра: толькі пісаць, ні пра што іншае не думаючы...

Паліна Корзун — мастак манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, адна з таленавітых маладых людзей, прадстаўленых у зборніку «Гонар Беларусі: маладыя, таленавітыя, адораныя». А яшчэ яна дзяўчына з адкрытым свету сэрцам, неверагодна прыемная і лёгкая ў зносінах.

У школе Паліна вучылася ў эстэтычным класе. З дзяцінства любіла маляваць. Бацькі заўважылі ў дачкі мастацкія здольнасці і вырашылі іх развіваць. Калі мама з татам спыталі, дзе Поля хоча вучыцца, адказала цвёрда: у мастацкім класе. І гэтую ўпэўненасць не пахіснулі расказы бацькоў аб будучых складанасцях. Пазней даведаліся, што побач з домам ёсць мастацкая школа. Набор у групы да таго часу ўжо прайшоў, але Паліне вельмі хацелася займацца. Настаўнікам «художкі» малюнкі дзяўчынкі спадабаліся, таму яе ўзялі ў школу неафіцыйна, як кандыдата на навучанне, пакуль не вызвалілася месца.

— Я ўжо кепска памятаю час вучобы ў мастацкай школе і вельмі здзіўляюся таму, што пра мяне расказваюць бацькі і выкладчыкі. Там да гэтага часу ўспамінаюць, што я была вельмі стараннай вучаніцай. Дзе трэба было адну работу зрабіць, я рабіла дзве. Аднойчы спадабалася яркае восеньскае лісце, дык намалявала яго, не разводзячы, жоўтым проста са слоічка. Выкладчык маім «мастацкім рашэннем» быў не вельмі задаволены, нават заўвагу зрабіў. А я — пакрыўдзілася! Да гэтага часу памятаю. Іншымі словамі, калі рабіла нешта, то абавязкова па-свойму. З характарам была!



*Зачараванне. Фрагмет. Тэхніка энкаўстыка*

Пасля дзявятага класа Паліна Корзун паступіла ў Мінскую дзяржаўную гімназію-каледж мастацтваў. Разбежка ў патрабаваннях мастацкай школы і каледжа была велізарнай, таму дзяўчына сур'ёзна да паступлення рыхтавалася. І паступіла — на дэкаратыўна-прыкладное аддзяленне. Там Паліна атрымала асноўныя веды па малюнку і жывапісе, навучылася плесці габелены, рабіць батык і роспіс па шоўку. А яшчэ, дзякуючы настаўнікам, упершыню прыняла ўдзел у выставе ў Палацы мастацтваў.

Скончыўшы каледж, Паліна Корзун стала студэнткай Акадэміі мастацтваў. Толькі пасля таго, як паступіла на манументальна-дэкаратыўнае мастацтва, Паліна ўсвядоміла, што ёй трэба будзе працаваць з сапраўднай архітэктурай. І аказалася не зусім гатовая да гэтага. Задачай мастака-манументаліста было зрабіць так, каб увасоблены ім у жыццё твор добра ўпісаўся ва ўжо існуючае архітэктурнае асяроддзе, падышоў будынку па стылі і тэматыцы. Гэтая праца Паліну трохі палохала. У Акадэміі студэнтаў вучылі збіраць вітражы, ствараць фрэскі і мазаікі, рабіць роспісы, пісаць энкаўстыкі. Большую частку манументальных тэхнік маладыя мастакі асвоілі па старых тэхналогіях. Хто хацеў, дадаткова стараўся папрацаваць у дзейных манументалістаў у прыватных майстэрнях. У Акадэміі мастацтваў студэнты прайшлі сур'ёзную школу, пасля якой ніякая праца ў манументальна-дэкаратыўным мастацтве ўжо не палохала.

— Маім дыпломам у Акадэміі мастацтваў быў разны ляўкас. Гэта такія дошкі, апрацаваныя адмысловым саставам. На іх звычайна пішуць абразы. Мне захацелася паэксперыментаваць — надаць такому старадаўняму матэрыялу, як ляўкас, сучаснае гучанне. У выніку атрымалася модульная сістэма са ста дваццаці дошак з каляровымі акрылавымі ўстаўкамі. Памер для мяне быў каласальным: амаль тры з паловай на пяць метраў.

Мне тады вельмі пашанцавала з кіраўніком. Акрамя Дзяніса Уладзіміравіча Чубукова мяне ніхто не хацеў браць: я лічылася «праблемнай» студэнткай. Гэта, напэўна, таму, што выкладчыкі не ведалі, чаго ад мяне чакаць.

Падчас вучобы Паліна Корзун на працягу пяці гадоў працавала ў дзіцячай мастацкай школе. У той, у якой калісьці вучылася сама. На дзяўчыну пераклалі падрыхтоўку дзяцей да іспытаў. Малых трэба было вучыць будаваць збаны. А ім хацелася зусім іншае маляваць. Вось і даводзілася маладой мастачцы са сваімі падапечнымі падоўгу і пра ўсё размаўляць, тлумачыць. Спраўляцца з дзецьмі было цяжка. «Яны ж, як чарцяняты!» — з усмешкай успамінае сваіх вучняў дзяўчына. Але такая праца была ў радасць. Калі дзеці паступалі дзякуючы практыкаванням, атрыманым ад сваёй настаўніцы, калі захапляліся і малявалі з задавальненнем,

тады Паліна разумела: урокі любові да мастацтва прайшлі не дарма.



Сёння Паліна Корзун працягвае выкладаць. Толькі ўжо дарослым вучням — працуе па размеркаванні ў студыі малюнка і жывапісу «Арт-Культ». Мастачка распрацоўвае курсы «з нуля», імкнучыся ў сціслыя тэрміны навучання змясціць свой шматгадовы мастацкі вопыт. Да яе на заняткі прыходзяць самыя розныя людзі. Студэнт і пенсіянер, школьнік і маладая мама, бухгалтар і матэматык — яны ўсе ідуць у студыю дзеля ажыццяўлення сваёй мары: навучыцца маляваць!

— Мне падабаецца выкладаць. Я заўсёды шчыра перажываю за тое, чым займаюся. І вельмі крытычна стаўлюся да сябе.

Мастачка усё ж імкнецца не забываць і пра ўласную творчасць. Як прызналася дзяўчына, яна ўлюбёная ў энкаўстыку. Гэта выяўленчая тэхніка родам са Старажытнага Егіпта, з аазіса Фаюм. Фаюмскія партрэты — творы, якія ўяўляюць сабой першыя энкаўстыкі, — знойдзены там у месцах пахаванняў. Гэтая тэхніка выкарыстоўвалася і ў размалёўках архітэктуры і караблёў. Аснова такога жывапісу — пчаліны воск і прыродныя смолы. Выконвалася яна часцей за ўсё на драўляных дошчачках, радзей — на палатне. Займацца энкаўстыкай у сучасных умовах няпроста. Патрэбны спецыфічныя матэрыялы, напрыклад, асаблівы адбелены воск (пасля работы з ім карціна доўга будзе пахнуць мёдам і пчолкамі). А яшчэ трэба ўручную рабіць адмысловыя сумесі, рэцэпты якіх у большасці даўно згублены.

— Я люблю сімвалічныя работы. Як і адкуль з'яўляецца канкрэтны вобраз — таямніца. Ён можа прыйсці ў сне, з'явіцца успамінам з дзяцінства, можа нарадзіцца незалежна ад мяне. Лічу, што найлепшыя вынікі здараюцца, калі я пішу не па заданні, а ад душы, калі хочацца мне самой.

Паліна Корзун лічыць, што навучыцца маляваць могуць усе. Малюнак — гэта набор правілаў, якія можна спасцігнуць. Іншае пытанне, ці пачне чалавек маляваць творча. Для гэтага трэба прымушаць сябе думаць, як мастак. А вось быць мастаком — гэта ўжо стыль жыцця.

Каб не зацягнуў побыт, даводзіцца ставіць новыя мэты, нанова шукаць сябе. Нягледзячы ні на што, думак з'ехаць з Беларусі ў маладой мастачкі не ўзнікае.

— Кожнаму мастаку патрэбен свой глядач. Ну не зразумеюць амерыканцы маіх свінцовых хмар і старых вясковых хлявоў. Могуць, вядома, захапіцца, палюбавацца, але ў сваім доме не павесяць. Пісаць жа карціны на заказ па фотаздымках я не хачу. Мне наогул здаецца, што мы там, за мяжой, не вельмі патрэбныя. Мастак вельмі моцна звязаны з тым месцам, дзе нарадзіўся.

***Анастасія Сасноўская***

# Як стварыць беларускі комікс
## Інструкцыя

Беларускі комікс, як і амерыканскі, і брытанскі, і японскі, — гэта, перш за ўсё, карцінка. Яркая, змястоўная: нясе ў сабе не менш інфармацыі, а то і больш, чым дыялог ці маналог персанажа.

Выключна нацыянальныя адметныя рысы ў беларускім коміксе могуць з’яўляцца, напрыклад, у сітуацыі, калі аўтар ставіць мэтай перадаць праз карцінку, скажам, нацыянальны побыт. У астатнім жа стыль малюнка абумоўлены жанравай традыцыяй, а яшчэ — вопытам і фантазіяй мастака.

Пакуль што комікс не зрабіўся звычайнай справай у Беларусі, ён не мае такіх ярка выяўленых пазнавальных рыс, як, напрыклад, японская манга. Таму асноўныя характарыстыкі беларускага комікса — гэта павышаная, у параўнанні з іншакультурнымі ўзорамі, ідэйная і сэнсавая нагрузка, абумоўленая славянскім менталітэтам, а таксама, зразумела, мова апавядання — беларуская. У астатнім да афармлення коміксаў прад’яўляюцца адносна падобныя патрабаванні. Пры гэтым яны могуць быць розныя ад выпадку да выпадку настолькі, што практычна не абмяжоўваюць палёт фантазіі аўтара.

Прыведзеная ніжэй інструкцыя расказвае, як адносна проста і хутка намаляваць беларускі комікс, калі ты не мастак.

ШТО ВАЖНА ПЕРАД ПАЧАТКАМ:

**1.** Вызначыцца з аўдыторыяй: на які ўзрост разлічаны комікс (для дзяцей дашкольнага ўзросту, падлеткаў, дарослых).

**2.** Ведаць, якую інфармацыю трэба данесці, якую праблему вырашыць.

Структура коміксу значна залежыць ад мэт і аб’ёму працы.

### Ідэя

Сюжэт гісторыі, якую ты збіраешся намаляваць, можа быць арыгінальным (прыдуманым табою) або запазычаным (з існуючага літаратурнага (і не толькі) твора). Напрыклад, комікс Адама Глобуса «Дзікае паляванне» створаны на аснове легенды пра караля Стаха, якую расказаў у сваёй аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзімір Караткевіч. У любым выпадку трэба дакладна ўяўляць сабе ўсе этапы развіцця сюжэта: завязку, кульмінацыю, развязку.

Комікс — гэта так ці інакш, але заўсёды спрашчэнне ідэі, звядзенне зместу да мінімуму. Таму лепш пачынаць з нескладаных сюжэтаў і маленькіх гісторый.

Перш чым пачаць маляваць, запішы гісторыю ў як мага больш простым варыянце і вылучы галоўныя павароты сюжэта.

Размяркуй кавалкі тэксту ў адпаведнасці з маляванымі фрагментамі. Лепш, калі кожнае дзеянне мае выразныя пачатак і канец і, плаўна пераходзячы з аднаго ў іншае, з адной старонкі на другую, уяўляе сабой завершаную думку аўтара.









*Фрагменты вядомага комікса «Дзікае паляванне караля Стаха», аўтар — Адам Глобус*

## Падрыхтоўка

Наяўнасць навыкаў па стварэнні малюнка — гэта, безумоўна, плюс, але можна без іх абысціся. У такім выпадку ёсць верагоднасць, што створаны табой стыль спадабаецца чытачу больш, чым традыцыйная рысоўка.

Арыгінальныя коміксы, незалежна ад таго, якія сродкі выкарыстоўваюцца для іх стварэння, малююцца ўручную.

Каб намаляваць простыя коміксы на некалькі старонак, трэба ўзяць розныя віды звычайнага алоўка. Адзін з шэрых колераў павінен тонка весці лініі, другі — таўсцей, а трэці хай будзе тоўстым. Абавязкова трэба падрыхтаваць некалькі гумак для карэкціроўкі працы. Каб у будучыні хутка і якасна ствараць работы адразу з дапамогай маркераў або ручкі, мы вучымся маляваць комікс алоўкам.

На працоўным стале, дастаткова асветленым, абавязкова павінны знаходзіцца фарматаўкі і лінейка, а лішнія прадметы будуць толькі перашкаджаць.

Праца пачынаецца з таго, што аркуш паперы зрокава дзеліцца на некалькі частак. У атрыманых пустых квадраціках (і іншых прамавугольных утварэннях рознай даўжыні і шырыні — залежыць ад жадання і фантазіі аўтара) будуць паэтапна малявацца фрагменты гісторыі.

Буйныя кадры ў коміксе азначаюць, што намаляванае ў іх дзеянне цягнецца даўжэй, дзеянні ў дробных — лічацца другараднымі. Яны служаць для падтрымання асноўнай думкі. У буйным кадры можа адбывацца мо і не адна, а нават дзве або тры падзеі. Дробныя не маюць патрэбы ў фоне, буйныя трэба прамаляваць дэталёва. Чытач захоча ўбачыць не толькі галоўнага героя, але і месца дзеяння!

## Стварэнне персанажа

*Парады:*

- Не ўскладняць вобраз персанажа вялікай колькасцю дэталяў, бо паўтараць іх няпроста.
- Не капіраваць паставы і выразы твару з папярэдніх малюнкаў.
- Не імкнуцца да дасканаласці — комікс павінен прыносіць задавальненне ад працэсу стварэння і лёгкасці працы.
- Адлюстроўваць толькі асноўнае. Спроба змясціць усё і адразу можа скончыцца павелічэннем колькасці старонак і стратай цікавасці ў стваральніка комікса раней, чым у гледачоў-чытачоў.
- Галоўнага героя лепш адлюстроўваць у цэнтры малюнка (ці бліжэй да развароту).

## Паслядоўнасць

Па агульнапрынятых правілах апавяданне комікса пачынаецца з верхняга левага кута, плаўна пераходзіць у верхні правы кут, а затым спускаецца ўніз, дзе пачынаецца зноў злева (у японскіх коміксах наадварот).

## Дыялогі

Героі комікса не робяць доўгіх прамоў. Іх дыялогі простыя, без складаназалежных зваротаў і эпітэтаў.

Карцінка важней за аповед. Калі аўтар не можа з гэтым змірыцца, яму трэба пісаць кнігу, а не маляваць. Кожнае слова, якое вылятае з вуснаў героя, трэба абводзіць у квадрацік ці авал. Ён звычайна вузкі і маленькі, але літары ў ім бачныя.

Дыялогі пішуцца друкаванымі літарамі. Разважанні герояў прынята абводзіць «бурбалкамі». Калі ім нешта сніцца, то іх думкі ў коміксе малююцца воблакам (гэтак жа, у залежнасці ад сітуацыі, могуць адлюстроўвацца і думкі не ў сне).

Шумы перадаюцца клічнікамі, пытальнікамі і іншымі знакамі прыпынку, сабранымі разам. Крык героя можа быць заключаны ў кола з вострымі шыпамі па абадку.

Невялікую інфармацыю аб тым, што і дзе адбываецца падчас намаляванай сцэнкі, перадгісторыю або высновы героя можна выносіць за межы квадратаў комікса. Яны могуць ісці паміж імі, зверху ці знізу. А самі дыялогі, якімі абменьваюцца героі, у класічных узорах жанру малююць па-над галовамі.

Пры афарбоўцы трэба пакінуць аблокі белымі ці зрабіць жоўтымі, каб не зліваліся з малюнкам.

***Гэта была тэорыя справы. Практычная рэалізацыя — паэтапнае ўвасабленне гісторыі на паперы — у наступным нумары.***

***Вольга Глухаўцава, Ганна Казакова***

*Фрагменты з комікса Маргарыты Латышкевіч «Рыбны Дзень»*

# Вяртаемся да галоўнага

Сябры, ужо шэсць нумароў запар мы з вамі практыкаваліся ў аматарскім маляванні, не без задавальнення і не надаючы вялікага значэння акадэмічным законам: прапорцыям, пластычнай анатоміі, святлоценявой перспектыве. Цяпер узнікае неабходнасць паглыбіцца ў аналіз нашых малюнкаў і будучыя працы наблізіць да дасканаласці. Мы закранём некаторыя важныя моманты будовы чалавечага цела і яе выяўленчай падачы.

Першае — праводзім цэнтральную лінію паставы. Яна супадае з пазваночнікам — асновай шкілета. На пазваночнік мацуюцца чэрап, плечавы пояс, тазавы пояс. Агульнымі лініямі эскіза абазначаем усю паставу.

**1.** Пачынаем з галавы. Галава ўмоўна змяшчаецца ў цела чалавека 7 з паловай разоў. Ты можаш адмераць ад макушкі да падбародка 7,5 адрэзка, роўных галаве. Але гэта мужчынская прапорцыя, жаночая — 7 разоў.

2. Цяпер праводзім лініі плечавога пояса, таліі, пазначаем, дзе будуць локці, тазавы пояс, калені, галёнкаступнёвыя суставы. Шырыня плеч у мужчыны раўняецца двум памерам галавы. У жанчын — крыху меней. Маем плечавыя косткі і перадплеччы, злучаныя локцевым суставам. Ён будзе трошкі вышэй за ўзровень таліі. Плечавыя і локцевыя суставы будзем маляваць у форме шара. Шыяй злучаем галаву з плечавым поясам.

3. Малюем грудную клетку. Яна упісваецца ў авал, які пачынаецца ад ключыц і заканчваецца акурат на ўзроўні локцяў.

4. Тазавы пояс — косткі таза і суставы сцягна. Шырыня сцёгнаў — 1,5 памера галавы ў мужчыны, у жанчыны — крыху болей.

5. Самыя доўгія косці цела — косці ног. Сцягна і галёнкі. Адлегласць паміж тазасцегнавымі суставамі нашмат большая, чым паміж галёнкаступнёвымі суставамі.

6. Ступня чалавека мае форму купала, які сплюшчваецца пры хадзьбе. Гэта і падкрэсліваем. А купал абапіраецца на тры кропкі — дзве на пальцах і адну на пятцы.

***Алеся Галота***





# «Пчаліны пацалунак» Алесі Скарабагатай

У наш час вельмі добра развітых тэхналогій чалавек можа зрабіць амаль усё! Напрыклад, зафіксаваць пэўныя моманты свайго жыцця пры дапамозе фотакамеры. Без яе ўжо амаль немагчыма ўявіць жыццё сучаснага чалавека. Але некаторыя людзі могуць «фатаграфаваць» малюючы. Вы запытаеце як гэта? Без усякіх тэхналогій. Нягледзячы на тое, што развіццё іх не стаіць на месцы, ёсць вельмі таленавітыя маладыя мастакі, якія здольныя ў сваім рэалістычны мастацтве стварыць больш, чым фотаздымак. Прыкладам такога цуду з'яўляецца Алеся Скарабагатая.

Яна — уладальнік дыплома першай ступені восьмага Рэспубліканскага мастацкага конкурсу, дыплома 1-й ступені Рэспубліканскага конкурсу маладых талентаў «Зорка ўзышла над Беларуссю», удзельніца шматлікіх міжнародных і рэспубліканскіх выстаў. Яе работа «Пацалунак пчалы» прыцягвае да сябе ўвагу асаблівай цеплынёй. Напісана алеем у 2015 годзе.

Тэма, якую даносіць да нас мастачка, з аднаго боку, — задавальненне ад простых дробязяў жыцця. З іншага боку, Алеся перадае адчуванне тугі, хуткацечнасці чалавечага быцця. Сюжэт эстэтычны — у гэтай рабоце мы бачым кавалкі сотаў, працятыя святлом, графічныя лініі залатога мёду і трапяткія дзявочыя рукі, якія вытанчаным трохвугольнікам ствараюць цэнтр кампазіцыі.

Уся карціна нібыта насычаная залатым сокам. Дамінуюць жоўтыя, вохрыстыя, карычневыя колеры. Шэрыя, бірузовыя, кобальтавыя лесіроўкі ценяў пралягаюць на залатым фоне — менавіта так мастачка дасягае жывапіснай гармоніі.

Работа базіруецца на моцнай фармальнай кампазіцыі. Шэра-вохрысты фон, на якім бачым светлую няроўную акружнасць, а побач, злева, цёмна-карычневая фігура «прамавугольніка». Самае «халоднае» месца знаходзіцца з левага боку побач з карычневай фігурай. Рукі, лыжка, соты, апушчаныя ў мёд, — мы літаральна адчуваем смак і цяпло. Але чаму мастачка дала сваёй рабоце такую назву? Дзе ж пацалунак?

Давайце звернем увагу на рукі, а дакладней, на мезенец. Як можна ўбачыць, ён прыпух — з-за таго, што яго «пацалавала» пчала.

***Настасся Капцава, Алеся Галота***

# Мы можам усё

Чаго толькі не ўбачыш на сценах у маім пакоі! Тут і карта Вялікага Княства Літоўскага, і пано на дзве тысячы пазлаў, і выява Нью-Ёрка… Але найбольшую прыгажосць пакою надаюць два мае партрэты — падарункі любых аднакласніц, Эльвіны Мамедавай і Сашы Пяткевіч. Чарговы раз захапляюся, якія таленавітыя людзі вучацца са мной у адным класе!

Дзяўчынкі расказалі мне, як яны стваралі ўлюбёныя карціны, дзе хочуць працягнуць вучобу і чым дапамог ім графічны планшэт. А напрыканцы мастачкі падзяліліся парадамі пачаткоўцам. Зацікавіліся? Тады гэты тэкст для вас.



## Як усё пачыналася

— Малюю, колькі сябе памятаю, — пачынае аповед **Саша**. — Але спачатку для мяне гэта было проста пацехай: рабіла замалёўкі на палях сшыткаў ці на чарнавіках, малявала ўсё, што бачыла навокал. А калі ў дзясятым класе зразумела, што хачу звязаць будучыню з прафесіяй мастака, пачала займацца больш сур’ёзна і адказна.

— А я заўсёды ведала, што стану мастачкай, — кажа **Эльвіна**. — У пачатковай школе маляванне было маім любімым урокам. А потым я зацікавілася японскай анімацыяй: натхнялася малюнкамі ў часопісах накшталт «Каламбура», глядзела анімэ. Мне настолькі падабаліся вобразы герояў, што хацелася неадкладна перанесці іх на паперу.

## Калі прыходзіць гаспадыня Муза?

— Мяне натхняе ўсё. Бывае так, што ідзеш па вуліцы, бачыш чалавека і разумееш, што хочаш яго намаляваць, — расказвае **Саша**. — А калі ў маім жыцці адбываецца нешта знакавае, я адразу пераношу гэты момант на паперу, каб не забыцца на цудоўную падзею.

— А мяне перш-наперш натхняе музыка, — кажа **Эльвіна**. — Дарэчы, я заўсёды малюю пад яе. Калі мелодыя вясёлая, то і малюнак атрымліваецца светлым і яскравым, а калі сумная… Але ж такія свае малюнкі я таксама люблю.

### Слоўнік

***Графічны планшэт** — гэта абсталяванне для ўводу інфармацыі, створанай ад рукі, непасрэдна ў камп’ютар з дапамогай пяра ці спецыяльнай мышкі і планшэта.

****Скетчбук** — гэта альбом, як правіла, невялікага памеру, які заўсёды знаходзіцца разам з мастаком, і куды ён заносіць важныя для яго замалёўкі. Гэтакі мастацкі нататнік.




## Як ствараюцца «шэдэўры»

— Аднойчы ў інтэрнэце мне на вочы трапіўся фотаздымак незнаёмага юнака. Не ведаю чаму, але мне захацелася намаляваць яго па-свойму. Я «змяніла» яму прычоску, дадала нешта новае ў выраз твару, і ў мяне атрымаўся зусім іншы чалавек, як я і хацела. Менавіта ў гэтым мне і дапамог графічны планшэт*, — расказвае пра стварэнне свайго ўлюбёнага партрэта **Эльвіна**.

— Пасля таго, як я прачытала нататку пра знакі задыяка, мне захацелася ўвасобіць Авена. У мяне ён чамусьці асацыіраваўся з маленькім пастушком, з нечым народным. Я знайшла ў інтэрнэце фотаздымак хлопчыка з дудкай, падгледзела яго паставу і намалявала свайго Авена ў фолкавым асяроддзі. Атрымалася ці не — мяркуйце самі, — прапаноўвае **Саша**.

## Мастацтва як прафесія

— Надумала паступаць ў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў — дзеліцца **Эльвіна**. — Канешне, уступныя экзамены будуць вельмі складаныя, але чаго не зробіш для дасягнення пастаўленых мэт.

— А я плануя трапіць ў Інстытут сучасных ведаў, на спецыяльнасць дызайнер віртуальнага асяроддзя. Доўга не магла вызначыцца з тым, куды буду паступаць. У гэтым дапамаглі бацькі: сказалі, што трэба выбраць тое, да чаго ляжыць душа. Вось я і выбрала.

*Мае аднакласніцы падобныя не толькі тым, што шыкоўна малююць. Яны — лепшыя сяброўкі! Гэта ведае ўвесь наш клас. Яны разам удзельнічаюць у конкурсах, дзеляцца ідэямі, дапамагаюць адна адной.* ***Саша*** *расказвае, што менавіта* ***Эльвіна*** *пераканала яе ў тым, каб звязаць жыццё з мастацтвам.* ***Эльвіна*** *ж кажа, што гэта* ***Саша*** *паказала ёй відэаўрок, з дапамогай якога яна сама вырабіла скетчбук**.*

*Дзяўчынак цяжка ўявіць паасобку, і я спадзяюся, што калі-небудзь яны разам адкрыюць мастацкую галерэю.*

## Абяцаныя парады тым, хто толькі пачынае маляваць

**Саша:** Самая галоўная парада — не баяцца рабіць памылкі. Кожны мастак, як і кожны чалавек, на іх вучыцца. Калі нешта не атрымліваецца — не хвалюйцеся, перарабляваце. Не думайце, што вы нічога не можаце — вы можаце ўсё. Кожны можа навучыцца маляваць, асабліва ў наш час, калі ёсць для гэтага ўсе магчымасці. Яшчэ можна змалёўваць работы іншых мастакоў. Гэта не дрэнна і не сорамна! Я і цяпер так раблю, калі-нікалі, бо яшчэ развіваюся.

**Эльвіна:** Малюйце ўсё, што рухаецца, рабіце замалёўкі. Заўсёды і ўсюды. Поспехаў і натхнення!

***Маргарыта Гайдаржы,***
***11 клас, Аляхновіцкая СШ, Маладзечанскі раён***

# Яму прысвячалі творы М.Багдановіч, Я.Купала, Ядвігін Ш.

Кожны ведае імёны абаронцаў роднай мовы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Але ці кожнаму знаёмае імя такога ж ахоўніка беларускага слова Сяргея Палуяна? Відавочна, гэтае імя не такое знакамітае. Але менавіта гэтай асобе Багдановіч прысвяціў свой зборнік «Вянок» і верш «С. Палуяну», Янка Купала — паэму «Курган», Ядвігін Ш. — верш у прозе «Раны».

Хто ж такі Сяргей Палуян?

…Па-першае, рэвалюцыянер, змагар і патрыёт. Дзяцінства яго прайшло ў вёсцы Крышычы Юравіцкай воласці Мазырскага павета, куды бацькі Сяргея пераехалі хутка пасля яго нараджэння і ў 1897 купілі фальварак. Бацька, Епіфан Палуян, паходзіў з сялянскага роду, і таму набыццё дома каштавала яму немалых намаганняў і плённай працы. Трэба было яшчэ накарміць і вывучыць васьмёра дзяцей (Сяргей быў трэцім сынам у сям'і), і тут — пагроза выключэння з Мазырскай прагімназіі з-за ўдзелу ў рэвалюцыйным руху. Для бацькі гэта быў моцны удар, ён жыў па іншых прынцыпах, з іншым светапоглядам. Сяргея забралі дахаты, яму давялося змяніць гімназію. Але хіба мог хлопец са сваім бачаннем свету моўчкі згадзіцца з бацькам? Зразумела, гісторыя паўтаралася.

У 17 гадоў жыццё Сяргея кардынальна змянілася. Адносіны паміж хлопцам і бацькам з кожным днём пагаршаліся. Ён пакінуў родную хату і паехаў ў Вільню — на сустрэчу з Янкам Купалам. Гэта ж як трэба верыць у мару, быць упэўненым у сваіх меркаваннях?! Наколькі трэба быць адданым думцы, за якую змагаешся, каб пайсці на рашучы крок — пакінуць бацькоўскі дом? Але нават пасля развітання з сямейным гняздом ён не адмаўляецца ад сваіх поглядаў: адпраўляецца ў Кіеў, каб удзельнічаць у рэвалюцыйным руху.

…Па-другое, публіцыст, празаік, літаратуразнаўца і крытык. Сяргей Палуян пісаў у «Нашу ніву», працаваў у часопісах «Украінская хатка» і «Світло», супрацоўнічаў з газетай «Рада». Менавіта публіцыст Сяргей Палуян настойваў на выданні «Вянка» Багдановіча, бо рэдакцыя палічыла вершы незразумелымі для селяніна, а Ядвігін Ш. іх ахрысціў «дэкадэнцкімі». Палуян жа разглядзеў у Багдановічу генія ды ўпэўніў у тым, што вершы павінны быць надрукаваныя. Сяргей Палуян яшчэ і аўтар рэцэнзіі на кнігу «Другое чытанне для дзетак беларусаў» Якуба Коласа.

На вялікі жаль, не ўся яго творчая спадчына захавалася, але вядомы яго апавяданне «Вёска», абразок «Хрыстос уваскрос», дваццаць адзін публіцыстычны артыкул, рэцэнзіі, сабраныя ў зборнік твораў «Лісты ў будучыню».

…Па-трэцяе, яркая, выдатная, смелая асоба з няпростым лёсам. Ён чалавек, які тонка адчуваў літаратуру і свет увогуле. Талент, шчырасць пазіцыі, упэўненасць — усё гэта як зоркі ў ясную жнівеньскую ноч.

Для мяне Сяргей Палуян — зорка. Я лічу, што ён — асоба, якая павінна быць вядомай. Далёка не кожны за сваё жыццё зробіць столькі, колькі атрымалася ў яго за 19 гадоў. Няхай жа Сяргей Палуян застанецца зоркай у нашых сэрцах! Няхай там гарыць яе след!

***Паліна Пархімовіч***
***9 клас, гімназія № 10, Мінск***



*Фота Алесі Галота*

# Пытанні падлеткаў — адказы з «Палескай глушы»

Кожны падлетак хоць раз у сваім жыцці знаходзіцца «на ростанях». Падлеткавы час, згадзіцеся, вельмі складаны: калі робіш першыя крокі ў дарослы свет, выбіраеш паміж сваімі і бацькоўскімі думкамі, фарміруеш асабісты светапогляд. Увогуле «будуеш» сябе. І, канешне, з'яўляюцца розныя пытанні, якія так хвалююць душу: ад паўсядзённых да філасофскіх.

У 9 класе мы знаёмімся з творам Якуба Коласа «У палескай глушы» — першай часткай трылогіі «На ростанях». Твор гэты не вельмі прыкметны: перш за ўсё ўвагу звяртаюць на кожнаму вядомую «Новую зямлю». Аднак менавіта ў «палескай глушы» мы можам сустрэць не толькі пытанні, актуальныя і сёння, але і адказы на іх.

Галоўны герой твора — малады настаўнік Лабановіч. У яго вобразе многія могуць знайсці і сябе. Калі чытаеш, думаеш так: «А як на месцы настаўніка зрабіў бы я? Ці згаджуся я з яго меркаваннем?» Калі ж мы нешта не разумеем або не ведаем, нам дапамагае старожка — добразычлівая бабка Мар'я, праз якую з намі вядзе гаворку сам Якуб Колас. Яна іграе ролю дапаможніка і сябра.

Але цяпер… падарожжа па Палессі! Пачнем шукаць адказы на пытанні!

І першае «скрыжаванне», з якім сутыкаюцца менавіта дзевяцікласнікі, — пытанні прафесійныя. Кшталту: у чым праяўляецца мой талент? Якую абраць прафесію? Безумоўна, нехта вызначыўся самастойна і адразу, але ёсць тыя, для каго агучаныя пытанні вельмі актуальныя. Тады хочацца, каб нехта дапамог, падтрымаў цябе. Хто гэта можа быць? Канешне, першыя людзі — родныя, бацькі. Але што рабіць, калі яны вызначыліся за цябе, або іх бачанне не супадае з тваім?

Зразумела, сварыцца і крыўдаваць — не выйсце. Тады з кім жа раіцца? Тут на дапамогу можа прыйсці Настаўнік. І менавіта гэты вобраз апісаны ў аповесці «У палескай глушы» — ужо знаёмы нам Лабановіч.

«Як ён можа мне дапамагчы?» — спытаеце вы. Адказ таксама ў творы: «Навязаць жа людзям сваю волю, вымагаць іх каб яны рабілі менавіта так, а не іначай, мы не маем права, бо хто можа паручыцца, што мы не памыляемся?» Ты, і толькі ты можаш знаць, што ты любіш, чаго табе хочацца. Родныя, настаўнікі, сябры, тэсты… яны могуць толькі прапанаваць, але вырашаць усе ж табе самому.

У творы паказана і тое, як розныя людзі адносяцца да працы. Напрыклад, Лабановіч, які атрымлівае ад сваёй працы задавальненне, і настаўнік Саханюк, які жыве някепска, бо выцягвае ўсё, што можа, са сваёй працы, робіць усё дзеля карысці і нават «за напісанне ліста не саромійся браць сала»; айцец Кірыл, які хоць і не верыць у простага сялянскага «мужыка», але працуе аддана, і айцец Мадэст — п'яніца, які лічыць, што кожны «мужык» яму вінен. Праз гэтыя вобразы і падзеі паўстае наступная праблема — пытанне прафесійнага абавязку. Калі чытаеш, можна зразумець, што трэба выбіраць прафесію, якую ты палюбіш і з якой ты зможаш спраўляцца. Бо менавіта ад гэтага будуць залежаць твае настрой, душэўны стан і светапогляд.

Калі закранаем пытанне светапогляду, напрошваецца: «А навошта ўсё гэта?», і ў дадатак філасофскае: «У чым сэнс жыцця?»

«А чорт яго ведае, для чаго ён [чалавек] жыве», як казаў Турсевіч (сябар Лабановіча з семінарыі). Магчыма, вы пагодзіцеся менавіта з гэтай думкай і пакінеце гэты шлях, не кранаючы яго. Але Настаўнік прапануе пайсці па дарозе «дабра, служэння праўдзе». Ідэалістычна, саладжава? Але хіба гэта не так? Нехта як мага болей вывуджвае карыснага з свайго жыцця, нехта жадае пакінуць свой след у гісторыі… Але ў кожнага з нас ёсць мэта. Бо што ёсць наша жыццё без мэты? Існаванне, не болей. І, што самае цікавае, сапраўды пачынаеш задумвацца над гэтым, калі чытаеш твор Якуба Коласа.

Якуб Колас закранае таксама праблему чалавека і абставін. У творы гэта ярка паказана на прыкладзе гісторыі закаханых — Ядвісі і Лабановіча. Каханне было ўзаемным, але дзяўчыне выпаў нялёгкі лёс — бацька быў жорсткі, цяжкі чалавек. І калі знайшлася магчымасць пакінуць бацькаву хату, паўстала дылема — застацца ці бегчы.

А што б на месцы Ядвісі зрабілі вы?.. Калі падумаць, такая гісторыя можа здарыцца з кожным. Дзе ў галоўнай ролі не толькі каханне, але і абставіны, якія ціснуць. Аповесць «У палескай глушы», такім чынам, дапамагае нам «прайграць» і пераасэнсаваць гісторыі, якія могуць адбыцца ў жыцці.

Апошняя, але не па значнасці, — лінія кахання. З псіхалагічнай дакладнасцю аўтар перадае стан душы маладога настаўніка і Ядвісі. Адкуль гэта? Як вядома, Якуб Колас працаваў над тэкстам літаральна ўсё сваё творчае жыццё. Многія падзеі, у якіх удзельнічаў Лабановіч, адбываліся з ім самім. Шматлікія эпізадычныя персанажы мелі рэальных прататыпаў. Напрыклад, панна Ядвіся — Ядвіга Ігнатаўна Баранцэвіч. Магчыма, таму і твор чытаецца так лёгка, з захапленнем. Магчыма, таму на месцы галоўных герояў часам мы бачым сябе.

***Паліна Пархімовіч***
***9 клас, гімназія № 10, Мінск***



# Дзьмухавец

Сёлета я расцвіў вельмі позна, амаль у жніўні. Недарэчна неяк атрымалася. Сумаваў моцна. Адчуванне такое, нібыта я адзін у полі. Агледзеўся — так і ёсць: адзіны дзьмухавец. Я так бы і жыў у сваім суме, калі б не яна. Дзяўчынка. Яна прыходзіла кожны дзень і рассцілала каля мяне чырвонае пакрывала. Тыдні выдаліся спякотныя, але яна не ішла ў цянёк, які давала дрэва каля ракі, а заставалася каля мяне. Не ведаю нават, што яна адшукала такое асаблівае ў маленькім дзьмухаўцы. А можа, яе вабілі пчолы і чмялі, якія падоўгу сядзелі на маёй жоўтай пухнатай галаве? Ці смак майго лісця, якое яна, зморшчыўшыся, жавала? І абавязкова дзякавала, што я вырас такі прыгожы.

А потым нешта здарылася — за адну ноч я састарэў і пасівеў. Стаў амаль што нябачны, зліўся з небам. У той дзень яна не прыйшла. І ў наступны таксама. Пахаладала. Вецер дзьмуў бязлітасна. Мяне гнула да зямлі, і я не мог падняцца. Ды і не надта хацелася. Хацеў хіба толькі знікнуць сярод пажоўклай травы...

А раніцай усё сціхла. Сонейка ўзнімалася над лесам. На луг прывялі коз. Яе я ўбачыў яшчэ на дарозе. Яна бегла па калючай траве да мяне. Плюхнулася побач і часта дыхала. Потым прытулілася шчакой да маіх сівых валасоў і асцярожна, каб выпадкова не зламаць, пагладзіла іх. Які я быў шчаслівы! І больш не адзінокі!

***Соф'я Федчанка,***
***5 клас, гімназія № 4, Мінск***

Заяўка на Парнас

# Рэчык — захавальнік чамаданаў

Аднойчы мы з мамай ехалі на мора. Цягніком.

Я ляжала на верхняй паліцы ў купэ і не магла заснуць, як раптам зверху, у нішы, дзе ляжалі нашы рэчы, пачуўся шолах. Ускінуўшы галаву, я зірнула ў той бок і ад нечаканасці замерла: сярод чамаданаў сядзеў маленькі чалавечак. Убачыўшы, што я гляджу на яго, чалавечак схаваўся за чамаданам.

«Прыснілася! — расчаравана падумала я. — А шкада!»

Але чалавечак зноў высунуўся з-за чамадана і памахаў мне маленькай ручкай.

— Прывітанне! — сказаў ён.

— Прывітанне! — адказала я, а потым спахапілася і дадала: — А ты хто?

— Я — Рэчык, захавальнік чамаданаў! — з гонарам сказаў маленькі чалавечак. — Я жыву ў гэтым вагоне і ахоўваю валізкі пасажыраў. Хочаш са мной пасябраваць?

— Хачу! — сказала я.

— Тады здымі мяне адсюль.

Я працягнула руку, асцярожна ўзяла чалавечка і пасадзіла побач з сабой. Мы хутка пасябравалі з Рэчыкам.

— Куды ты едзеш? — спытаў у мяне Рэчык.

— На Чорнае мора, — сказала я. — Там я буду загараць, плаваць, ласавацца марозівам і весяліцца.

Рэчык сумна ўздыхнуў:

— А вось я ніколі не бачыў мора. Раскажы мне пра яго.

Але што я магла расказаць, калі і сама першы раз туды ехала. Замест гэтага я прапанавала:

— А паехалі са мной на мора?

Рэчык ледзь не зваліўся ад радасці на падлогу.

— Ура! — усклікнуў ён. — Няўжо гэта праўда, і я ўбачу мора?

— Убачыш, — адказала я яму.

— А я не буду табе там перашкаджаць? — заклапочана запытаўся мой новы сябар.

— Ні кропелькі! — запэўніла яго я. — Наадварот, мне нават весялей будзе з табой.

Маленькі чалавечак пусціўся ў скокі, размахваючы капелюшом. Мы яшчэ доўга размаўлялі з Рэчыкам, а потым вырашылі, што ён залезе ў мой заплечнік і так будзе ехаць астатнюю частку шляху. Потым я заснула.

Раніцай мы прыехалі, засяліліся ў санаторый і пайшлі на пляж. Я адразу ж пабегла купацца. Я плёскалася каля берага і раптам успомніла пра свайго сябра.

Падбегшы да заплечніка, я прыадчыніла яго. Рэчык асцярожна выглянуў з заплечніка і ад нечаканасці ўсклікнуў:

— Ух, якая прыгажосць! Якое ж яно велізарнае — мора!

Потым я пачала будаваць пясочны замак. І амаль дабудавала яго, як раптам пачуўся лямант Рэчыка:

— Дапамажыце! Ратуйце!

— Трымайся, я іду! — крыкнула я, ускочыла з месца і кінулася да вады.

Я спрытна падхапіла чалавечка з хвалі. Аказваецца, ён выбраўся з заплечніка і вырашыў пакратаць ваду. Ён падышоў да вады, пакратаў яе, паспрабаваў на смак. Вада аказалася зусім нясмачная, хоць і прыемная навобмацак. Усвядоміўшы гэта, Рэчык пачаў плёскаць па вадзе далонямі і так гэтым захапіўся, што не заўважыў, як чарговая хваля збіла яго з ног і пацягнула ўглыб.

Усё гэта расказаў мне сам Рэчык, калі я абцерла яго ручніком і паклала сохнуць на маленькі кілім.

І тут падышла мама.

— Дзе ты ўзяла такую смешную ляльку? — запытала яна, убачыўшы Рэчыка.

— Я знайшла яе ў цягніку, мамачка! — сказала я.

— Напэўна, нехта забыўся і захоча вярнуцца па яе, — выказала здагадку мама. — А ты ўзяла чужую цацку. Больш так не рабі.

— Не буду, мамачка, — паабяцала я і хітравата ўсміхнулася Рэчыку. — Ды і не вернецца былы гаспадар, гэта я дакладна ведаю!

Кожны дзень мы хадзілі на пляж, купаліся, будавалі замкі з пяску, елі марозіва, ездзілі на экскурсіі, гулялі ўвечары па набярэжнай. Але мама так і не здагадалася, што Рэчык жывы і ўмее размаўляць.

Праляцелі тры тыдні, надышоў час вяртацца дадому. Мы зноў ехалі у цягніку, шэптам гутарылі з Рэчыкам, успамінаючы, як весела нам было разам. Але мне было ўсё больш сумна, бо цягнік хутка прыбываў на нашу станцыю, дзе мне давядзецца развітацца з Рэчыкам.

— Паехалі да мяне! — прапанавала я Рэчыку, але ён толькі адмоўна матлянуў галавой.

— Нельга, бо я ж — захавальнік валізак! Як жа пасажыры без мяне? Хто будзе сачыць, каб чамадан не згубіўся? Хто будзе рэчы пералічваць? — з сумам сказаў Рэчык. — Мне таксама не хочацца расставацца з табой. Але я не магу пакідаць вагон надоўга. І так вымову ад начальства атрымаў за гэтыя тры тыдні!

— Я прыдумала! — усклікнула я. — Мы з мамай на наступны год таксама паедзем да мора! Значыць — зноўку можам з табой сустрэцца.

— Я вельмі буду рады гэтаму! — усміхнуўся Рэчык. — Ты, як толькі будзеш ехаць у цягніку, падумай пра мяне — і я адразу ж з'яўлюся. А цяпер нам час развітацца. Табе спаць, а мне пералічваць валізкі.

— Але я не хачу спаць! — запратэставала я, але вочы неяк самі сабой заплюшчыліся, а калі зноў расплюшчыла іх, то была ўжо раніца і цягнік запавольваў ход якраз на нашай станцыі.

— Дзе ж твая лялька? — спытала мама, калі мы вярнуліся дадому. — Ты ж не расставалася з ёй нават на хвілінку, няўжо надакучыла?

— Не, мамачка! Я буду гуляць з ёй праз год, калі зноў сустрэнуся, — сказала я маме.

Мама здзіўлена паглядзела на мяне, потым ўсміхнулася неяк загадкава. Напэўна, у яе дзяцінстве таксама быў свой Рэчык, і яна ўсе зразумела.

Але я веру, што ў наступным годзе абавязкова сустрэнуся ў цягніку з маленькім чалавечкам, калі мы з мамай зноўку паедзем на мора. Трэба толькі трошачкі пачакаць!

***Маргарыта Садоўская,***
***6 «В» клас, СШ № 40, Магілёў***

Казкі школьнага ранца

# Казка пра алімпійскага Мядзведзіка

Жыў-быў у адным лесе Мядзведзік. Быў ён добрым і спагадлівым, але вельмі ўжо лянівым, тоўстым і няўклюдным. Любіў паляжаць, папесціцца на сонейку, паласавацца малінкамі, мёдам. Усе лясныя жыхары ціхенька пасмейваліся з таўстуна, давалі яму крыўдныя мянушкі.

Асабліва даймалі Мядзведзіка пчолы, калі ён да іх па мёд прыходзіў. Аднойчы аб'явілі, што мёду ён больш не атрымае, бо занадта тоўсты!

Лопнула цярпенне ў небаракі, і вырашыў Мядзведзік заняцца спортам.

Узяў ён у лапы гантэлі з шышак, і з непрывычкі яны падаліся яму цяжэйшымі за камяні. Але кожны дзень Мядзведзік настойліва трэніраваўся, і ў хуткім часе яго снарадамі сталі трухлявыя пянькі. А праз месяц ён ужо вырашыў зрабіць штангу са ствала дуба. Вось так, крок за крокам, настойліва ішоў Мішка да пастаўленай мэты.

Надышла зіма. Вядома, што мядзведзі лічаць дрэнным тонам не ўпадаць у зімовую спячку. Але наш Мядзведзік так хацеў усіх здзівіць навесну сваёй фігурай, што па сакрэце ад сваіх суродзічаў кожную раніцу пакідаў бярлог і працягваў старанна займацца спортам.

Калі надышла вясна, Мядзведзік вылез з берлагу і пайшоў на галоўную паляну. А там якраз адбываўся вельмі важны сход. Сабраліся на паляне лясныя жыхары і вырашалі, хто з іх стане сімвалам Алімпіяды-80. Усе спрачаліся, кожны лічыў сябе самым годным. Крычалі, даказвалі, а потым слова ўзяла мудрая Сава і абвясціла, што сімвалам Алімпіяды павінен стаць той з іх, у каго не толькі добрая душа, але і вялікая сіла волі.

І тут усе прысутныя ўбачылі нашага Мядзведзіка і ад нечаканасці страцілі мову. Перад імі стаяў не ранейшы няўклюдны, нязграбны таўстун, а стройны, падцягнуты малады мядзведзь з пругкімі мышцамі. «Як табе гэта ўдалося? Колькі спатрэбілася часу?» — пасыпаліся пытанні. Мядзведзік адказаў: «Я ўсю зіму займаўся спортам».

— Вось у каго сіла волі! — усклікнуў Воўк.

— А яшчэ ў нашага Мядзведзіка вельмі добрая душа! — дадала мудрая Сава.

І тады ўсе прагаласавалі за Мядзведзіка. Ён прайшоў адбор і заваяваў пяць рознакаляровых кольцаў, зрабіў з іх фірменны пояс. Усміхаючыся гасцям Алімпіяды, сваім прыкладам паказваў, што можна шмат дабіцца, можна змяніць сябе, толькі трэба шчыра пажадаць. І спорт у гэтым — лепшы памочнік!

Мядзведзік быў у такой выдатнай форме, што нават змог стаць незвычайным парашутыстам і паляцець пад апладысменты гледачоў на парашуце з цэлым звязкам паветраных шароў. Ці мог бы ён марыць пра гэта, калі б не пасябраваў са спортам?

***Віталіна Віннік,***
***6 «А» клас, Снoўская СШ, Нясвіжскі раён***


*Мастачка Паліна Гаварэнь*

## Я ганаруся Беларуссю

Люблю я край свой беларускі,
Люблю дамы, люблю палі.
Люблю, калі прыгожым клінам
Дамоў імкнуцца жураўлі.

Люблю садоў тваіх цвіценне
І гоман гаяў ды лясоў,
Званоў царкоўных цуда-трэлі
І шолах казачны бароў.

Калі бываю за мяжою,
Сумую там я па табе.
Радзіма, ты заўжды са мною!
Прыходзіш да мяне і ў сне…

Край мой! У свеце ты адзіны,
І нездарма дамоў імчуся!
Бо светлым іменем Радзімы,
Табой, як маці, ганаруся!

Я ганаруся Беларуссю!

***Аляксей Уткін,***
***10 «А» клас, СШ № 1, Мінск***


Фота Маі Рабцавай

* * *

Застылыя хвалі
У кронах загадкавых дрэў,
Апалыя зоркі
Схаваліся ў кветках вясною.
І вецер застылы
Забыўся, куды ён ляцеў.
Бясконцае мора
Пад мудрай старою гарою.

Мелодыі кропляў,
Народжаных летнім дажджом.
Каменных мелодыі пліт…
Іх не кожны пачуе.
Раса на лістоце —
Сляза невядома каго.
І ціхая тайна,
Якая ў паўзмроку начуе.

Праходжу між дрэў
А вакол штосьці шэпча трава.
Вянком з дзікіх кветак
Увіта мая галава.
Мне рэха складае
Імёны з пялёсткаў і сноў…
А імя маё
Хай падкажа вам шум каласоў.

***Ганна Крацько,***
***8 клас, гімназія № 8, Мінск***

## Лета

Вясна адплакала дажджамі,
Сышоў апошні шэры снег —
З цяплом і птушак галасамі
Зноў лета пачынае бег!

Яму мы рады, як ніколі —
Навокал кветкі расцвілі.
Заняткі скончыліся ў школе —
Да нас канікулы прыйшлі!

То луг нас кветкамі чаруе,
То ў спёку пазаве рака…
Лес шчодры ягад прапануе
І цень зялёнага дубка…

***Яна Крупская,***
***10 «А» клас, СШ № 1, Заслаўе***

## Глыток шчасця

Шчаслівы той, хто ў лесе
Бывае з году ў год.
Я ведаю: ратуе
Ён ад усіх нягод!

Лес — як глыточак чысты
Спакою, глыбіні,
І цішыні імшыстай,
І проста дабрыні!

У лесе адчуваеш,
Што сілы жывяць зноў,
І думаеш, як добра,
Што ты сюды прыйшоў!

***Анастасія Анансан,***
***11 «А» клас, Заслаўская гімназія,***
***паэтычны клуб «Ізяслаўцы»***



*Мікола Гіль*

# Хто Зайца баіцца?
## Па матывах народнай казкі

Сонца свеціць, ветрык вее,
Траўка зелянее.
Зайка бегае па ўзлеску,
Не робячы трэску.
Мякенькія ў Зайкі лапкі,
Бы ў коціка драпкі.
Яму трэба бегаць ціха,
Каб не клікнуць ліха.
Ліха ж тут — на кожным кроку,
Зблізку і здалёку.
Трэсне сук ці птушка крыкне —
Душа ў пяткі нікне!
Сам сябе баіцца Зайка —
Быццам ён казяўка!
Як пазбыцца Зайку страху?
Ні ў чым не даць маху?
Быць надзвычай чуйным трэба,
Слухаць дол і неба!
Ворагаў у Зайкі многа, —
А што засцярогай?
Ні клыкоў і ні калючак,
Ані іншых злючак!
Хіба вартавыя служкі —
Лакатары-вушкі!
Гук уловяць самы слабы, —
Аж да шэпту жабы.
Толькі й вораг Зайкаў чуткі,
Гэтакі й ціхуткі.
Вораг першы — Воўк няўедны:
Бойся, Зайка бедны!
Сочыць Зайку пільна й Ліска —
Лепш не бачыць блізка!
Прагнуць Зайкавае згубы —
Каб трапіў на зубы!
Вось і вострыць Зайка вушкі:
Тут жа — ў пабягушкі!
Страх і злева, страх і справа, —
Гэткая праява.



Страшны Воўк, што за гаворка, —
Дык жа — і Вавёрка!
Шышку долу яна шмякне, —
Зайка ўжо й абмякне!
Дзесь Сарока застракоча, —
Ён ажно падскоча!
Пэўна, лёс такі зайчыны—
Страхі без прычыны.
Дрыжыкі зімой і летам
Прадае дуплетам!
Нездарма ж і людзі баяць:
Во — дрыжыць, бы заяц!

*Сапраўднае прозвішча Міколы Гіля — Гілевіч. Пісьменнік выдаў шмат кніг, у тым ліку і дзіцячых. Такіх, напрыклад, як зборнік апавяданняў для дзяцей «Самы галоўны чалавек», казка-быль «На лясной вуліцы», аповесць у апавяданнях пра лётчыка-касманаўта Пятра Клімука «Ёсць на зямлі крыніца».*

От і зараз. Свеціць сонца.
Ткуцца валаконцы.
Жук паўзе. Вязуць мурашкі
Груз без каламажкі.
Бегаюць сараканожкі.
Смоўж наставіў рожкі…
Вышэй, дзе суплёт галінаў,
Хор звініць птушыны.
Свет жывы й дзівосны гэты,
Сонцам абагрэты,
Рады лецейка прыходу,
Водзіць карагоды.
Толькі ж Зайка сумнавата
Зіркае на свята, —
Страх і тут з ім неадступна, —
Вось яму і сумна.
Ловяць вушы-недарэкі
Знакі небяспекі.
Ледзь што трэсне ў глушы бору, —
Зайка дае дзёру.
Ці ж да гуляў-весялосці,
Як страх скаваў косці?!
Ляжа спаць — яму не спіцца:
Воўк з Лісою сніцца!
Легчы б, выпрастаць бы ногі,
Каб не знаць знямогі,
Дамагчыся б супачыну
Хоць бы на хвіліну!..
Дык жа дзе там! За кустамі
Скрозь — усе з зубамі!..
Што ж гэта ў яго за доля:
І ў лесе, і ў полі
Ведаць страх бесперастанку
Ад ранку да ранку?!
Чым так вечна калаціцца, —
Лепш ужо ўтапіцца!
Сёння ж, зараз, неадкладна, —
Вось і будзе ладна!

Зайка смела і рашуча
Кінуўся да кручы.
Ды ад страху — ажно вухнуў:
Хтосьці ў рэчку бухнуў!
Гэта жабкі-небаракі —
Ў ваду з пераляку.
Зайка ўрэшце схамянуўся,
Нават усміхнуўся:
— Нехта ж і мяне баіцца…
Не буду тапіцца!

І пабег шчаслівы Зайка
Да лясного ўскрайку!

Перапынак

# Блізняты

Для гульні патрабуюцца па два чалавекі ад кожнай каманды. Абхапіўшы адзін аднаго за талію, свабоднымі рукамі ім трэба спачатку развязаць і дастаць з чаравікаў шнуркі, а потым па камандзе зноў іх зашнураваць і нават завязаць банцік.


Фота Маі Рабцавай

*Станіслаў Валодзька*

# Пчаляр

1

Стаську было адзінаццаць гадоў, калі пасля смерці бацькі яму давялося дапамагаць маці даглядаць пчол. У іх садку пад яблынямі стаяла невялічкая пчаліная вёсачка, і, колькі Стаська сябе помніў, там з вясны да восені гулі гэтыя руплівыя божыя стварэнні. Хлопчык любіў назіраць, як завіхаўся каля пчол бацька, а яшчэ больш любіў ласавацца толькі што сабраным духмяным мядком. Але бацькі, на жаль, не стала, а пчолы засталіся…

Неяк суботнім вечарам маці сказала:

— Ну што, сыночак, збірайся, пойдзем у пчолы. Зараз жа ты мой гаспадар...

Настрой у Стаські адразу ўпаў, але куды дзявацца, калі ў маці і без таго на вачах слёзы. Распалілі дымакур, на раздзьмутыя вуголлі паклаўшы гнілушак, надзелі на галовы сеткі, адразу стаўшы чымсьці падобнымі на касманаўтаў, і падаліся ў пчальнік. Адчыніўшы вечка ў першым вуллі і адняўшы застаўку, што закрывае рамкі з сотамі, пачалі працу.

— Медазбор багаты, — адзначыла мама, — у самы раз нашым працаўніцам з намі падзяліцца.

І Стаська, згадаўшы, як гэта рабіў бацька, крыху прыўзняў першую рамку і пачаў старанна абкурваць яе дымам. Затым злёгку прыстукнуў па рамцы кулаком, і пчолы, што вялікімі гронкамі ляпіліся на сотах, з шумам пападалі на дно вулля. Далей пайшоў у ход пучок гусіных пер’яў, змятаючы тых, што яшчэ заставаліся.

І так рамка за рамкай. І адразу ж важкія рамкі з мёдам Стаська адносіў да акна бакоўкі, дзе маці ўстаўляла іх у цэнтрыфугу, папярэдне зразаючы з кожнай тонкі слой воску. Калі цэнтрыфуга запаўнялася, пачынала яе круціць, каб мёд выцек…

Замілавана гледзячы на сына, маці прамаўляла:

— Эх, каб мог пабачыць бацька, які ў яго сын вырас! Сапраўдны пчаляр!

Ад пахвалы Стаську не так балелі пчаліныя ўкусы, якіх было нямала. Яму і раней даводзілася паспытаць такіх «пацалункаў», аднак тады гэта былі кветачкі ў параўнанні з цяперашнімі ягадкамі. Рукі ў хлопчыка распухлі, як падушачкі, губа раздзьмулася, вока заплыло — некалькі раззлаваных пчол схітрыліся забрацца і пад сетку.

Калі лазбавалі апошні вулей, Стаська пачуў у двары знаёмыя галасы. Томак, Сцёпка і яго цёзка Стась назіралі здалёк за сябрам. Яны гучна пачалі выказваць яму сваё захапленне, на што ў адказ пачулі:

— Пачакайце трохі, мёдам пачастую!

Праз нейкі час, убачыўшы сябрука без сеткі, хлопчыкі рассмяяліся: цяпер ён нагадваў клоўна. А як Стаська глянуўся ў люстэрка, то і яго тоўстыя, як у афрыканцаў, вусны расцягнуліся ва ўсмешцы, а вузкае, як у кітайца, левае вока амаль зусім заплыло. Але гэта не перашкаджала хлопчыку частаваць сяброў свежым мёдам і самому ім частавацца.

Макаючы хлеб у залацісты пахучы мядок, сябры разважалі аб тым, як добра мець пчол: з імі такой смакаты можна паспытаць не толькі тады, калі захварэеш...

*Станіслаў Валодзька — беларускі пісьменнік, які жыве ў латвійскім горадзе Даўгаўпілсе. Піша вершы і празаічныя творы, у тым ліку і дзіцячыя. Яго кніжка «Калі ласка, казка» была выдадзена на трох мовах: па-руску пад назвай «Сказки и краски», па-польску як «Kotka-bosa łapka» і на латышскай — «Pasakas un krāsas».*

Выходзячы з хаты, Томак раптам ускрыкнуў, за ім завойкаў Сцёпка, і яны, нібы ў танцы, заскакалі, замахалі рукамі і кінуліся з двара! На ўсякі выпадак, уцягнуўшы галаву ў плечы, даў лататы і Стась.

— Гэта каб мне не так крыўдна было, — засмяяўся Стаська, гледзячы як у аднаго сябра крыху «падрос» нос, а ў другога занадта бухматаю стала шчака. Потым Стаська прыгадаў сябрам пачутыя ад бацькі словы аб тым, што пчаліныя ўкусы ў невялікай колькасці для чалавека нават карысныя. Ды і мёд пасля гэтага яшчэ смачнейшым здаецца...

## 2

Зіма у той год выдалася суровай, быццам сама Сібір зазірнула да нас у госці. Аднойчы наранку маці разбудзіла Стаську:

— Стасечка, уставай! Завея ўсю ноч старалася, трэба і нам за справу брацца: карміліц сваіх ратаваць!

З цяжкасцю прыадчыніўшы на вуліцу дзверы, яны ўбачылі, што снегу намяло пад самую страху, а там, дзе павінен быць пчальнік, толькі адна вялікая гурба ўзвышаецца.

— Трэба спяшацца, — усклікнула маці, — каб без доступу паветра пчолкі не задыхнуліся!

Завіхаліся як маглі, па чарзе пракладаючы ў снезе траншэю, аднак да абеду былі толькі на паўдарозе да мэты. Пачулі, як па вёсцы пратарахцеў трактар, расчышчаючы дарогу. А неўзабаве каля завеяных весніц з’явіўся Томак.

— Пакліч Стася і Сцёпку і прыходзьце на дапамогу, — папрасіў яго Стаська, — толькі рыдлёўкі прыхапіце, каб спачатку да ганка дабрацца.

З новымі сіламі работа пайшла весялей. І калі вечаровае сонца пеўнем садзілася на частакол лесу, лятток кожнага вулля быў асветлены ім.

— Ой, якія ж вы малайцы, хлопчыкі! — усміхалася ўсцешаная матуля. — Заходзьце зараз у хату, гарбатай з мёдам буду вас частаваць!

### 3

Неяк раз да аселіцы, дзе Стаська з сябрамі гуляў у футбол, данёсся матулін голас:

— Стаська, дахаты!

Дома хлопчыка чакала новае выпрабаванне: раіліся пчолы. На яблыні вялікім клубком вісеў рой.

— Хутчэй, дзіцятка, трэба не даць яму ўзляцець, — сказала маці. — Здымі з гарышча венік і рэшата, і прынясі вядро з вадой, а я распалю дымакур!

Затым у пусты вулей хуценька змясцілі рамкі з сотамі, што меліся ў запасе, і толькі пасля гэтага наблізіліся да рою. Змачыўшы венік, апырскалі яго вадой, ад чаго рой значна пацяжэў і на нейкі час страціў здольнасць узняцца ў паветра. Не забываў свайго прызначэння і дымакур, раз за разам пыхкаючы дымам, нібыта паравоз. І вось наступіў самы адказны момант.

Падставіўшы рэшата пад рой, Стаська асцярожна страсянуў сук, на якім той размяшчаўся. Рой упаў у рэшата і ўмомант быў накрыты настольнікам. Пасля хлопчык, зняўшы пакрывала, высыпаў пчол у падрыхтаваны вулей, зачыніў века і кінуўся наўцёкі.

#### Цікавостка

*У самым пачатку XIX стагоддзя шатландскі вучоны Чарлз Макінтош праводзіў доследы з каўчуком і выпадкова запэцкаў ім рукаў свайго плашча. Потым, трапіўшы пад дождж, ён са здзіўленнем заўважыў, што запэцканы рукаў не намакае. Пасля гэтага Макінтош пачаў выпускаць спецыяльную непрамакальную тканіну, якую спецыяльна апрацоўваў каўчуком. Адзенне з такой тканіны і называлася «макінтош». Цяпер жа «макінтошамі» называюць толькі воданепрамакальныя плашчы.*

Ранейшыя «ягадкі» здаліся яму зараз «кветачкамі» — столькі пчаліных джалаў упілося ў хлопчыка! Некаторыя з іх і праз адзенне дасталі. Стаська з гадзіну, пэўна, ляжаў у ложку, а маці ўсё прыкладала і прыкладала яму на балючыя месцы прымочкі. І хоць хлапчуку было ўжо чатырнаццаць, ён з цяжкасцю стрымліваўся, каб не заплакаць.

Салодкі пчаліны мёд, але сама праца пчаляра не такая ўжо і салодкая…

І толькі на наступны дзень прыйшло адчуванне радасці, што іх пчальнік папоўніўся на адзін рой.

А вечарам Стаська доўга глядзеў у зорнае неба, і раптам здалося яму, што гэта і не зоркі так ласкава мігцяць над галавой. Там, зверху, таксама раіўся залацісты пчаліны рой...

*Камек Кулієў*

# Паразуменне

Развіднела. Маленькі пасёлачак у пустыні ажыў. Звонкімі галасамі пеўні віталі нараджэнне новага дня. Нават спявалі хорам. Падняўся брэх раз'юшаных сабак і рык аслоў; здавалася, яны тужыліся перакрычаць адны адных.

Гармухамет Атаеў, фельчар пасёлка, нетаропка падняўся з ложка, няспешна апрануўся, памыўся і сеў да ранішняга чаю. У гэты час за адчыненымі вокнамі пачуўся глухі голас:

— Мбэ-э-э… Мбэ-э…

— Ізноў яна прыйшла, — прабурчала жонка Гармухамета, Айджа.

За акном паказаліся двое чорненькіх вачанят. Слізнуўшы па тварах мужа і жонкі, якія сядзелі разам, яны ўтаропіліся ў глыбіню пакоя, у пошуках некага ці чагосьці…

Гармухамет паказаў рукою на дзверы. Вачаняты зніклі і следам зазірнулі ў адчыненыя дзверы. Праз хвіліну паказалася і сама гаспадыня гэтых вачанят — дзяўчынка гадоў сямі-васьмі, з коскамі.

— Айна яшчэ спіць! — гучна сказала Айджа, паказваючы пальцам на дзяўчынку, якая спала ў куце.

Госця кіўнула галавой, і так, як быццам была ў сябе дома, спакойна падсела да іх. Затым, зірнуўшы на Айну, якая спала, ціха прамовіла:

— Мбэ-э-э?

Гармухамету ці то было няёмка есці аднаму, ці нешта яшчэ, і ён далучыўся да «размовы» дзяўчынкі.

— Так, гэта «Мбэ»… Есці будзеш, Майса, а чай?

Айджа, узяўшы з талеркі кавалак мяса і кавалак чурэка, ледзьве ці не кінула іх перад дзяўчынкай. А тая, не звяртаючы на гэта ўвагу, узялася за яду, вачанятамі сквапна ўпіваючыся ў Айну.

Чатырохгадовая Айна на сёння была адзінай «суразмоўцай» дзяўчынкі. Майса ніводнага дня не магла пражыць без Айны. Ад нараджэння Майса не чула нават свайго голасу, таму ёй здавалася, што ў свеце валадарыць абсалютная цішыня. Хіба што, калі была яшчэ зусім маленькай, яна плакала, моцна прагаладаўшыся; з таго часу дзяўчынка не ведала і слёз. Яна заўсёды толькі смяялася. І калі бачыла, як нехта плача, то думала, што так смяюцца. Таму Майса ажно заходзілася ад рогату, калі Айна, запракінуўшы галоўку, плакала ўголас. Не разумела Майса толькі аднаго: калі яна пра нешта пыталася ці штосьці распытвала, то дарослыя, акругліўшы вочы, моршчылі твары і чухалі загрыўкі. Хіба толькі маці…

## Цікавостка

*Ліст воднай расліны вікторыі амазонскай мае дыяметр больш за два метры і без праблем можа вытрымаць вагу ад 30 да 50 кг. Гэта значыць, што на такі ліст можна смела пасадзіць дзіця. Цвіце вікторыя амазонская раз на год на працягу 2—3 сутак, але яе беласнежныя кветкі можна ўбачыць толькі ўначы.*

Але і маці не шмат часу бавіла з дачкою — хатніх клопатаў было не пералічыць. Заставалася толькі Айна. І толькі Айна, уважліва «выслухаўшы» Майсу, адкрывала свой маленькі роцік, варушыла вуснамі, і тады ўсё адбывалася, як таго жадала Майса. Можа быць, таму Майсу цягнула да маленькай Айны, якая ва ўсім старалася падрабляцца да яе, паўсюль ішла за ёю, трымаючыся за спаднічку старэйшай сяброўкі: Айна без усялякага цяжару разумела «мову» Майсы.

Калі Майса была зусім маленькай, яе бацькі ў спадзяванні вылечыць дзяўчынку ад страшнай немачы неаднойчы наведваліся да фельчара.

— Гармухаметджан, ты ж доктар, дапамажы дзіцяці… Ніколі не забудзем тваёй дабрыні… — упрошвалі яны.

— Я не маю такіх сіл… Ёй ніякія лекі не дапамогуць. Зразумейце ж, што гэта ў яе ад нараджэння, — са спачуваннем адказваў ён ім. — Адвязіце яе ў вялікі горад, пакажыце самым вялікім спецыялістам. Раптам…

— Эх, хіба ж у нас у вялікіх гарадах ёсць знаёмыя, блізкія людзі? Ты ўжо пастарайся! На крайні выпадак, сам правядзі нас да гэтых дактароў!

— Пакінуць работу, пакінуць столькі хворых — як жа я паеду?!

Фельчару Атаеву падавалася, што ў пасёлку ўсе, акрамя яго, хворыя, і ўсім патрэбная яго дапамога.

Іншымі словамі, Майса не знайшла ў гэтым доме лекаў ад сваёй немачы, затое яна знайшла ў ім Айну.

Усё ж у бацькоў дзяўчынкі цеплілася надзея на выздараўленне дачкі і таму, варта было ім выхапіць спрыяльны час, як яны адразу ж адпраўлялі Майсу ў дом фельчара. А можа. А раптам! Бацька ці маці дзяўчынкі, паказаўшы ёй бутэлечку ад лекаў, паказвалі ў бок дома фельчара, і тады Майса ізноў накіроўвалася да іх…

Калі ж Айна ўстала на ножкі, Майса яшчэ часцей пачала заходзіць у дом фельчара.

— Хвароба ў яе не заразная? — часам з неспакоем пыталася ў мужа Айджа.

— Ну што ты вярзеш, колькі можна тлумачыць: не хвароба гэта, а прыродай закладзены парок!

— Вай-вай, твая дачка водзіцца з ёю, а раптам і яна таксама не загаворыць, вырашыўшы, што так і павінна быць? — не супакойвалася Айджа.

— Загаворыць, не бойся! Як даказвае медыцына, калі гэта не закладзены прыродай парок, то…

Пасля такіх выключна навуковых тлумачэнняў мужа Айджа ўсё ж такі супакойвалася.

Перапынак

## Намалюем — будзем жыць

Дзеці дзеляцца на каманды. Кожная атрымлівае аркуш паперы, на якім трэба намаляваць дом. Удзельнікі па чарзе падбягаюць да свайго аркуша і малююць адну з геаметрычных фігур (круг, квадрат, трохвугольнік, трапецыю і г. д.). Паўтарацца нельга, час конкурсу абмежаваны, перамагае каманда, якая намалюе дом з самай вялікай колькасцю элементаў.

…У хуткім часе прачнулася і Айна. Твар Майсы напоўніўся святлом, як толькі яна ўбачыла малечу.

— Мбэ-э-э… Мбэ-э…

Скокнуўшы з месца, Майса падбегла да яе, узяла за рукі і падвяла да посцілкі. Пасадзіла, пачала тыцкаць то яе, то сябе, шчоўкнула па піялцы і пальцамі зрабіла крокі па падлозе. Айна пазяхнула і, працёршы вочкі, сказала:

— Яна гаворыць: «Пап'ём чаю і пойдзем гуляць».

І далей, зірнуўшы ў твар Майсы, прадоўжыла: «Пасля будзем скакаць з труб».

Гармухамед, сцішана назіраючы за імі, весела засмяяўся:

— Гавораць жа: мову нямога толькі маці зразумее, а Майсе і маці не патрэбна, калі побач Айна.

— Гэта добра, калі яна цэлымі днямі гуляе з Айной, усё ж ёсць каму прыгледзець за нашай дачушкай, — прамармытала Айджа.

І, памякчэўшы ад сваіх жа слоў, выцягнула аднекуль дзве пячэнькі і працягнула дзяўчынкам:

— Цяпер ідзіце пагуляйце. Толькі далёка не сыходзьце.

Майса, адкусваючы пячэнне, ішла, усміхаючыся сама сабе. Яна была спакойная і шчаслівая. Таму што перад ёю ішла яе правадніца — маленькі гаварлівы прадстаўнік гэтага пярэстага цудоўнага свету…

***З туркменскай.***
***Пераклаў Алесь Карлюкевіч***

## Аповесць-канструктар

## *Аліна Длатоўская. Арнаменты*

*Пачатак у нумарах 1—6.*
*Мастачка Наталля Длатоўская.*




Выразай па шэрым пункціры.




Складвай напалам па карычневым пункціры такім чынам, каб старонка 97 (101, 105, 109) апынулася зверху.




На апошнім этапе складзеныя напалам двойчы старонкі трэба склеіць па бэжавай лініі.

***Важна!*** Для склейвання старонак, каб яны не карабаціліся, выкарыстоўвай ***гумавы*** клей.

***Так, месяц за месяцам дадаючы новыя старонкі аповесці, ты можаш стварыць кнігу!***

— Я ведаю, што ў нас з табой так не прынята, але сёння мы пачнём з пакарання, а ўжо потым пагутарым «за што і чаму», — крыху мякчэй працягнуў мужчына.

— Мне ўсё адно, — хлопец паціснуў плячыма. — Гэта нічога не зменіць, але калі табе так хочацца… Больш балюча мне ўжо не будзе.

— Тады ідзі ў свой пакой і падрыхтуйся. Я буду праз дзесяць хвілін. І Міраслава таксама будзе прысутнічаць.

— Я ўжо сказаў. Рабі, што хочаш, — Усевалад узняўся, пляснуўшы кнігай па стале.

— Я прасіла знайсці з ім агульную мову, а не сапсаваць усё канчаткова! — выбухнула Міра.

— Я ведаю, што раблю.

— Адлупцаваць яго ў маёй прысутнасці — выдатны сродак знайсці агульную мову, — яна пляснула ў далоні, назіраючы за тым, як мужчына дастае з шафы даўгі кій.

— Адлупцаваць? А! — мужчына разгублена паглядзеў на сваю зброю. — Божа, чым з вамі займаліся ў Вучэльні? Толькі і рабілі, што лупцавалі? Гэта арабіна!

— Як яшчэ можна караць такой штуковінай? Не на кол жа ты яго пасадзіш…

— Гэта а-ра-бі-на, Міра! Ладна, проста даткніся. Не бойся.

Дзяўчына з падазрэннем паглядзела на Стэфана і акуратна даткнулася пальцамі да кія. Руку адразу ж

100

— Ён самы бяскрыўдны з іх?

— Ды яны ўсе адзін аднаго вартыя, — усміхнуўся хлопец. — Ты на імя не звяртай увагі. Ён той яшчэ гарэза.

Нібы падмацоўваючы яго словы, з гіканнем ды віскатам з вады выскачыў сівы стары, перакуліўся ў паветры ды зноў плюхнуўся ў возера, задаволена рагочучы. Ён быў зусім невысокі, з гладкай скурай, нібыта пакрытай слоем тлушчу, з даўгой барадой ды перапонкамі між пальцаў.

— Нашто прыйшоў?

— Паразмаўляць трэба.

— Дык ты падыдзі бліжэй, я ж адтуль не пачую нічога, — з кплівым выразам твару прапанаваў вадзянік.

Юрась напружыўся, напяўся, але зрабіў адзін невялікі крок да вады.

— Баішся? Ты ж раней нічога не баяўся, га? — Ціхоня падплыў бліжэй ды абаперся рукамі на паваленны ў ваду ствол дрэва. — Ой, гэта ж быў не ты. Прабач, пераблытаў…

Агнія адразу ж абхапіла далонь юнака сваімі рукамі, нібы стрымлівала ад удару, і гэта, на дзіва, прымусіла яго супакоіцца. Ён расправіў плечы, пагардліва ўсміхнуўся ды зрабіў крок назад, не зводзячы вачэй з вадзяніка.

— Навошта ты прыйшоў?

— Па-першае, пазнаёміць цябе з новымі сяброўкамі Вядзьмаркі: Агніяй ды *Алісай*, — яе імя ён

97

неяк дзіўна старанна вылучыў. — Па-другое, у Купальскую ноч Вядзьмарка ля твайго возера плануе сход міфічных істот . Ёй ёсць што вам сказаць.

— Вам?

— Нам.

— Вельмі рады пазнаёміцца з яснымі паннамі. І на сход абавязкова прыйду. Буду ўздымаць пытанне аб папулярнасці нашых мясцінаў. Ужо нават Ваяры да нас не заходзяць — пагуляць няма з кім.

— Астатнім сваім перадай.

— Перадам, перадам. Ідзі ўжо адсюль, бо лапы замочыш, — Ціхоня знік пад паверхняй вады.

— Далей будзе прасцей, — заспакаяльна мармытнуў сабе пад нос Юрась.

***

Міраслава ўладкавалася побач са Стэфанам, які, седзячы на бервяне, задумліва паліраваў меч. Ваяр выглядаў незадаволеным ды пакрыўджаным — і ў гэтым Міра не бачыла нічога дзіўнага. Пасля вяртання Усевалада мінуў амаль тыдзень, а яны дагэтуль нармальна не паразмаўлялі.

— Ён зноў не прыйшоў на трэніроўку? — пацікавілася яна.

— Як бачыш, — паціснуў плячыма мужчына.

— Можна мне паразмаўляць з ім?

— Не варта. Я для яго больш не Настаўнік. І гэта мая правіна…



— Тады я паразмаўляю з *табой*, — Міра забрала ў Стэфана з рук зброю і ўважліва паглядзела на яго. — Слухай, я не ведаю ўсёй праўды, але і ён не ведае таксама. А хацеў бы. Калі б яму было ўсё адно, ён бы ўжо знайшоў сродак зноў сысці. Ідзі і паразмаўляй з ім, растлумач, папрасі прабачэння. Знайдзі з ім агульную мову.

— Ты маеш рацыю. Трэба пагутарыць…

Міраслава пераможна ўсміхнулася і паднялася ўслед за Стэфанам.

Усевалад сядзеў на канапе ў гасцінай, закінуўшы ногі на стол, і чытаў нейкі стары фаліянт, на якім паўсцёртымі літарамі было адзначана: «Вядзьмаркі: ад знахарак да сапраўднага зла». Пачуўшы, што яны ўвайшлі, ён на імгненне вызірнуў з-за кнігі і працягнуў чытаць.

— Усевалад, адкладзі кнігу, калі ласка, — папрасіла Міра. — Стэфан прыйшоў сказаць табе нешта істотнае.

— Я слухаю, — з-за кнігі прамармытаў юнак.

Міраславе давялося штурхнуць Стэфана ў бок і шыкнуць: «Кажы давай!»

— Гхм. Я думаю, мы абодва разумеем, што ты заслугоўваеш пакарання, — раптам сурова вымавіў Стэфан.

— Што? — адкрыла рот Міраслава.

Усевалад зноў хмыкнуў і закрыў кнігу, з крывой усмешкай гледзячы на ваяра.

— Хопіць, Вал, дастаткова, — Стэфан ручніком прыбраў камень з-пад рук юнака.

Пакуль Усевалад супакойваўся і аднаўляў дыханне, Настаўнік паклаў упоперак сімвала тую самую арабінавую трысціну. Міра не зводзіла вачэй з мужчын, цудоўна разумеючы, што яе зараз не існуе для гэтых дваіх. І ўвогуле больш нікога не існуе.

— Гэтую частку я люблю больш, — слаба ўсміхнуўся Усевалад.

Прыняўшы з астылай і пацямнелай татуіроўкі анучку, ён паклаў рукі на кій. Блакітныя стужкі папаўзлі пад скурай да сэрца. Юнак зноў заплюшчыў вочы і спакойна, глыбока дыхаў.

— Гэта не балюча? — шэптам спытала Міра.

— Проста горача, як трымаць руку над вогнішчам, — таксама ціха адказаў хлопец.

— Досыць, Усевалад, інакш будзе цяжка кантраляваць энергію.

Юнак пакорліва адпусціў рукі і расплюшчыў вочы. Яны свяціліся сілай і шчасцем. Стэфан працягнуў Вучню руку, каб дапамагчы ўзняцца, і той прыняў дапамогу. Міра раптам зразумела, што гэта добры знак, што Стэфан сапраўды ведае, што робіць, і засталося ўсяго некалькі крокаў, каб усё зноў было як трэба.

— Нам шмат трэба абмеркаваць, Настаўнік, — стомлена вымавіў хлопец.

— Толькі пасля таго, як я пераламаю табе ўсе рэбры, Свавольнік, — сурова заўважыў Стэфан, але

104

укалолі блакітныя іскрынкі, і Міра адчула, як паступова ўзрастае яе энергія. Яна прыбрала руку і нахмурылася:

— Ты збіраешся пакараць яго, даўшы энергіі? Можа ты яго яшчэ цукеркай у якасці пакарання пачастуеш?

— Міра, гэта азбука! Калі ты — выдатніца, якія ж астатнія… Можа, ты хоць гэта ведаеш? — мужчына дастаў з шафы ручнік, вышыты арнаментамі энергіі, у які быў загорнуты шэры бугрысты камень.

Міраслава надзьмула вусны і пакрыўджана заўважыла:

— Камяні забіраюць энергію. Ты збіраешся спачатку даць, а потым забраць? Гэта хутчэй подласць, чым пакаранне.

— Я збіраюся зрабіць наадварот.

— Тады ў чым сэнс?

— Ачышчэнне. Мы бяром энергію ад вялікай колькасці прадметаў: з дрэваў, з глебы, ад вогнішча, ад зброі. З часам энергія ўнутры нас набывае негатыўную афарбоўку, асабліва, калі мы злуёмся, крыўдуем, ненавідзім, смуткуем. Таму часам карысна скарыстаць усю сваю энергію, а пасля набрацца новай, чыстай. У кожнага свой запас энергіі. З такім, як ва Усевалада, гэта зрабіць не проста — даводзіцца выкарыстоўваць розныя сродкі. Толькі гэта дзея не з прыемных… Таму мы робім гэта вельмі рэдка, а для кагосьці гэта ўвогуле стала пакараннем.

101

На падлозе ў пакоі юнака крэйдай быў намаляваны вялікі сімвал ачышчэння, у сярэдзіне якога на каленях стаяў хлопец, апрануты ў белую ільняную кашулю ды нагавіцы. Левае яго запясце было пераматанае вільготнай анучкай. Вельмі просты, стомлены і разгублены, ён нібы адчайна шукаў для сябе нейкія адказы і быў ужо згодны на ўсё, абы знайсці іх.

— Ты гатовы?

Хлопец згодна кіўнуў галавою, і мужчына паклаў камень у цэнтр сімвала. Усевалад паставіў над ім рукі, заплюшчыў вочы і апусціў далоні на камень. Той нібы ажыў: заблішчэў блакітным, на ім з'явіліся прожылкі, а ўнутры нешта запульсавала. Юнак усё мацней нахіляў галаву і згорбіў плечы. Ён хмурыў бровы, сціскаў зубы і цяжка дыхаў.

Мужчына прысеў, не перасякаючы межаў сімвала, і ціха вымавіў:

— Паглядзі на мяне, калі ласка. Расплюшчы вочы і падымі іх на мяне, Усевалад.

Хлопец выканаў загад, ледзь чутно цыкнуўшы ад болю.

— Так, Фелікса забіў я, — мякка пачаў Стэфан. — Але я зрабіў гэта, бо ён збіраўся забіць цябе. Вал, паспрабуй мне паверыць. Я не хлушу.

Юнак апусціў вочы і яшчэ больш сагнуў плечы, пальцы яго задрыжалі.

— Трымай рукі, хлопчык. Я скажу, калі будзе дастаткова.

102

Усевалад набраў у грудзі паветра і закусіў вусны. Апушчаныя павекі крыху падрыгвалі, пальцы ўсё мацней сціскалі камень. Міра ўважліва разглядала юнака, які раней здаваўся проста нахабным падлеткам.

— Я ведаю, што табе зараз балюча, — ціха працягваў Стэфан. — Але і ты ведаеш, што гэты боль пойдзе табе на карысць. Ты ведаеш, што я ніколі не зрабіў бы таго, што магло б прынесці табе сапраўдную шкоду.

— Навошта яму забіваць мяне? — голас юнака заўважна дрыжэў.

— Растлумачу, калі ўсё скончыцца. Крыху засталося, патрывай, — мужчына закасаў рукаў і паглядзеў на татуіроўку, якая зрабілася насычана чырвонай. — Я ненавіджу караць цябе, Вал. Для мяне гэта не менш балюча. Але мы абодва гэтага заслугоўваем. Твае ўчынкі насамрэч вартыя больш суровага пакарання.

— Раней… Ты казаў, што я атрымліваю… Роўна столькі, колькі…

Ён сціснуў зубы і прыглушана застагнаў.

— Заслугоўваеш? Так. Але зараз большасць тваёй віны насамрэч мая. Я павінен быў сказаць табе раней.

— Чаму ж… Не сказаў?

Стэфан сумна і збянтэжана ўсміхнуўся:

— Баяўся, што ты не прабачыш мне.

Юнак толькі крывіўся ды спрабаваў роўна дыхаць, стрымліваючы стогны. Камень дрыжаў усё мацней ды поўніўся знутры яркім блакітным святлом.

103

— Прынёс?

— Прынёс, пані, прынёс, — нячысцік акуратна апусціўся на зямлю ды набыў сваё звыклае аблічча, затоптваючы нагамі ігліцу, ад якой ужо паціху падымаўся дымок.

— Не спалі мне лес, — з кплівай усмешкай заўважыла вядзьмарка. — Дамовіўся з Ядзеркамі наконт бурштыну?

— Было складана. Такія панны… Па-мойму, усе марскія нячысцікі надта сур'ёзныя. Але ж якія тыя Ядзеркі прыгажуні! Валасы залатыя-залатыя, нібы той бурштын, самі высокія, танклявыя, у срэбных сукенках ды святло выпраменьваюць, як маленькія сонейкі.

— Затлуміў дзяўчаткам галовы сваімі кампліментамі? Хітрун ты гэткі. Давай усё сюды, — жанчына ўсхвалявана ўзяла ў яго скрутак.

— На тое я і хут, каб любым чынам жаданае атрымаць. А што чутно ад Юрася ды дзяўчат?

— Не хвалюйся, Юрчык пакуль выдатна спраўляецца. Знаёміць іх з нашым сусветам пакрысе, тлумачыць, што да чаго. Аліса ўжо амаль прызвычаілася. Хутка можна будзе з ёй сур'ёзна паразмаўляць.

— А калі яна адмовіцца?

Яго раптам наскрозь працяў погляд драпежных зялёных вачэй. Было зразумела: такі варыянт Вядзьмарка нават не разглядала. Яна не ведала адмоўных адказаў і не ўмела іх прымаць. І гэта Хута вельмі

108

пры гэтым мякка прыцягнуў хлопца да сябе і моцна абняў.

— Я павінен быў выслухаць адразу, — прамармытаў юнак, утыкаючыся ў мужчынскае плячо.

— Табе ўвогуле варта часцей мяне слухаць. Хадзем, пагутарым нармальна. Мірачка, зрабі нам, калі ласка, гарбаты.

Міраслава цёпла ўсміхнулася. Дзяўчыну зусім не абурыла такая просьба, бо яна неверагодна ганарылася сабой: яна прымусіла іх памірыцца.

— Дарэчы, — мужчына падняў з падлогі кій ды пакруціў у руцэ. — Міра прапанавала мне, як яшчэ пакарыстацца гэтай рэччу. І наступны раз, калі ты вырашыш сысці, я скарыстаюся яе прапановай, я табе абяцаю.

— Я такога не прапаноўвала. Але калі Стэфан ажыццявіць сваю пагрозу, я буду цябе трымаць.

— Ды не буду я больш нікуды сыходзіць. Калі не высветліцца, што Настаўнік забіў яшчэ каго-небудзь… Дарэчы, чаму Фелікс хацеў мяне забіць, Настаўнік?

— Ёсць старажытная легенда Ваяроў пра тое, што Майстар можа набыць бязмежную ўладу, бязмежныя запасы Энергіі, калі знойдзе сабе вучня, мацнейшага за яго самога, ды заб'е. Падчас нашай чарговай сваркі Фелікс расказаў мне гэта, раказаў, што я не адпавядаю яго планам. Калі ён узяў новага вучня, я працаваў за Мяжой. Маім адзіным сябрам тут заставаўся

105

Марк. Ён мне і паведаміў, што Фелікс узяў новага малога і гэты малы з часам стаў рабіць неверагодныя поспехі. Я ведаў, чым гэта скончыцца. І ведаў, што не магу гэтага дазволіць. Перамагчы на двубоі не было ніякіх шанцаў, таму давялося па-здрадніцку стрэліць у спіну з арбалета. Я не магу дараваць сабе гэта, але інакш я не мог…

Усевалад моўчкі глядзеў у вочы Настаўніку, а Міра пераасэнсоўвала пачутую інфармацыю.

— Пачакай, вось чаму ты не Майстар! — выгукнула яна, зруйнаваўшы няёмкую цішыню. — Калі ты заб'еш Усевалада, пакуль не з'яўляешся Майстром — гэта табе нічога не дасць, так?

— Цяпер бачу, што выдатніца, — усміхнуўся Стэфан.

— Атрымліваецца, вы ахвяравалі дзеля мяне ўсім, а я вам столькі турбот натвараў, — Усевалад відавочна ў сабе расчараваўся.

— Калі цябе гэта супакоіць, у мяне былі асабістыя сур'ёзныя нагоды адпомсціць Майстру Феліксу.

— Але ў *мяне* не было нагодаў так сябе паводзіць…

— Перастань, Свавольнік. Ты для гэтага і ёсць. Я цудоўна ведаў, на што іду, калі браў цябе ў Вучні. Пі гарбату і не бяры да галавы розную лухту. Гэта загад.

Юнак стаў насупраць Настаўніка, і цвёрда вымавіў, гледзячы яму ў вочы:

— Я прашу прабачэння, Настаўнік. І… Стэфан, даруй мне, калі ласка.

106

Такой шырокай і цёплай усмешкі на твары мужчыны Міраслава ніколі яшчэ не бачыла. А яна была проста неверагодна прыгожай.

— Я таксама прашу прабачэння, Усевалад.

Пазней, калі яны ўжо дапівалі па трэцім кубку гарбаты, смеючыся ды жартуючы адзін з аднаго, Міра раптам зразумела адну істотную рэч.

— Слухайце, хлопцы, а калі б вы не пасварыліся, мы б зведалі пра Вядзьмарку значна пазней…

***

Хут ляцеў вельмі нізка, бо цягнуць такі скарб было цяжкавата, але ўсё ж намагаўся не кранаць вершаліны дрэў. Яго залацістая гарачая луска з лёгкасцю падпаліла б сухія галіны.

Цяпер ён амаль кожную ноч лятаў на пошукі розных загадкавых камянёў, раслін ды іншых складнікаў для вядзьмарскіх рытуалаў. Яму дагэтуль не верылася, што яна асмеліцца ажыццявіць тое, што задумала. І толькі ён адзін ведаў, што менавіта яна хоча зрабіць. Нават Юрась, якога яна трымала да сябе так блізка, не здагадваўся, на карысць якой справы ён працуе.

На змрочнай паляне між разлапістых ялін раскладзеныя каменьчыкі, абвугленыя паленцы ды чыесьці косткі складаліся ў дзіўныя арнаменты. Жанчына хадзіла між іх, час ад часу нешта папраўляючы, ды задумліва пакусвала пазногці. Заўважыўшы Хута, яна ўсхвалявалася яшчэ больш.

107

не могуць. І вядзьмарак асабліва. Насамрэч, не ведаю, ці могуць яны ўвогуле з кім-небудзь стасавацца. Яны, здаецца, нават сябе з цяжкасцю выносяць.

— Карацей, так сабе нячысцікі, — Агнія расчаравана падціснула вусны.

— Нічога, наступныя спадары табе мусяць спадабацца, — цёпла ўсміхнуўся юнак.

Між сініх ад ягад кустоў чарнічніку весела гойсалі ды мітусіліся жвавыя невялічкія істоты, падобныя да катоў, што ходзяць на задніх лапках. Поўсць у іх была карацейшая, а тварыкі дзіцячыя, з бліскучымі яскравымі вачамі. Яны гулялі ў квача, куляліся ды кідаліся адзін у аднаго саспелымі ягадамі, але, заўважыўшы Юрася, з радасным віскатам кінуліся да яго абдымацца. У іх казытлівыя абдымкі хутка патрапілі і дзяўчаты, пасля чаго пабачылі сябе добра перамазанымі ў чарнічным соку.

— Вітанне, Шэшачкі, — выбіраючыся з іх гурбы, са смехам сказаў Юрась. — Вы дзяўчатам вярніце, калі ласка, усё, што ўкралі падчас вашай ветлівай сустрэчы.

— Гэта ён пра што? — істоткі гарэзліва пераглядаліся адна з адной.

— Аліса, штосьці знікла ў вас?

— Бранзалет з рукі знялі, з кішэні тэлефон выцягнулі, — разгублена адказала Аліса, абмацваючы вопратку.

— А ў мяне сцягнулі жалуды і аловачак, — дадала Агнія.

112

спалохала ды напружыла. Аліса, як ён паспеў зразумець, не з наіўных дурнічак, якім лёгка затлуміць галаву ды прымусіць рабіць тое, што табе трэба. Аліса заўсёды думала сваёй галавой, верыла толькі таму, што бачыла на свае вочы. З ёй будзе вельмі не проста дамовіцца. Затое на яе лёгка паўплываць праз Агнію. Даверлівую маленькую дзяўчынку, якой так хочацца верыць у цуды, што яе можна ўпэўніць у чым хочаш.

— А што наконт Агніі?

— Пакуль яна мне патрэбна, — абыякава паціснула плячыма вядзьмарка. — Яна добра ўплывае і на Юрася, і на сваю сястру. Паслухай, Хут, ты нячысцік — вось і стасуйся з нячысцікамі. А з людзьмі я разбяруся сама. Не лезь не ў сваю справу. Цябе не павінны хваляваць сястрычкі, цябе павінны хваляваць толькі незакрэсленыя пункты спіса.

— Слухаюся, мая панна, — стрымана адказаў Хут, занепакоена аглядаючы сімвалы, што вядзьмарка выкладвала на зямлі.

***

Агнія з цікаўнасцю разглядала нячысціка, што сядзеў на паваленым дрэве ды, павесіўшы нос, плёў лапці. Ён выглядаў зусім як чалавек, толькі між чорных, як вугаль, валасоў тырчалі невялікія вострыя рожкі, а рукі здаваліся на дзіва даўгімі. Нячысцік мармытаў сабе пад нос нейкую народную песеньку ды перыядычна цяжка ўздыхаў.

109




— Вечар добры, браце Шатане, — ціха ды ветліва вымавіў Юрась.

— Каму добры, а каму зноў босым хадзіць, — расцягваючы словы, неахвотна адказаў шатан.

— А куды ты шлях трымаеш?

— Няма ў мяне шляху. Швэндаюся вось, бадзяюся. Ніхто мне не рады, нідзе мяне не чакаюць.

— Чакаюць-чакаюць, — юнак сеў на паваленае дрэва побач з нячысцікам. — На Купалле цябе чакаюць каля ляснога возера.

Шатан павольна павярнуўся да Юрася ды сумна паглядзеў на яго, надзьмуўшы вусны.

— Вядзьмарка зноў нешта задумала? Не, я туды не прыйду. Там будзе натоўп, я не люблю натоўпы. А вядзьмарак яшчэ больш не люблю.

— Слухай, ёй трэба паведаміць нам усім нешта вельмі важнае. Прыходзь, будзе цікава.

— Не будзе. Не пайду. Каб мне хоць адна вядзьмарка калі што добрае зрабіла, дык я яшчэ падумаў бы. А так не пайду. Пакіньце мяне ў спакоі.

Юрась цяжка выдыхнуў, але больш упрошваць не стаў, узняўся ды кіўнуў дзяўчатам галавой, маўляў: «Хадзем адсюль».

— Чаму ён такі надзьмуты? — пацікавілася малая, калі яны адышлі падалей.

— Ды шатаны ўвесь час такія. Самотнікі, жудасна крыўдлівыя, бадзяюцца па свеце ды шкодзяць людзям па дробязі. А іншых нячысцікаў трываць





# Застацца ў жывых





Французская кампанія Kheops Studio падарыла геймерам магчымасць адчуць сябе героямі серыяла, але без камер і выхаду ў эфір. У камп'ютарнай гульні «Вяртанне на Таямнічы востраў».

Праз 150 гадоў пасля таго, як Жуль Верн напісаў раман «Таямнічы востраў», на гэты самы востраў у выніку караблекрушэння трапляе адважная дзяўчына Міна.

Гульня складаецца з дзвюх частак. У першай Міна знаходзіць на востраве сябра — малпяня Юпа. Дзякуючы сваёй знаходлівасці гераіня здолела выжыць, пазнаёмілася з капітанам Нэма і падала сігнал аб дапамозе. Але на пачатку другой часткі верталёт, які быў адзіным выратаваннем для Міны, церпіць крушэнне, і дзяўчына зноў апынаецца на востраве. Каб выбрацца адсюль, ёй трэба прыкласці значна больш сіл, бо гэтым разам ёй давядзецца выратаваць не толькі сябе і сябра Юпа, але і ўсё насельніцтва вострава. Прыадкрыю таямніцу: магчымыя дзве развязкі, але якая з іх спраўдзіцца, залежыць ад цябе.

«Вяртанне на Таямнічы востраў» — гэта не лінейны квэст, удзельнік мае права выбару. Праўда, у другую частку распрацоўшчыкі дадалі спіс заданняў, напрыклад, знайсці лекавую зёлку або назбіраць мурашак, аднак гэта не надта ўплывае на сюжэт.

Адна з адметных рыс — магчымасць камбінаваць прадметы. Адну і тую ж рэч можна зрабіць рознымі спосабамі, а ўжо сабраныя — разабраць для выкарыстання ў іншых камбінацыях. Дарэчы, камбінуе прадметы толькі Міна, але Юпа можа ўзаемадзейнічаць з імі. Што да геймплэя, то гульня вядзецца ад першай асобы. Дарэчы, другая частка адрозніваецца тым, што мы кіруем не толькі дзяўчынай, але і малпачкай.

Музычнае суправаджэнне па максімуме набліжана да прыроднага і толькі зрэдку — у самыя напружаныя моманты — з'яўляецца штосьці адрознае. Графіка ў першай частцы абсалютна знежывелая, але ў другім эпізодзе стваральнікі сумленна стараліся. Хоць малюнак моцна не змяніўся, жывёлы сталі рухацца. Аблокі, зрэшты, засталіся на месцы. Карацей, жвавасці магло б быць крыху больш. Пейзажы аднастайныя. Праўда, стваральнікі паспрабавалі наблізіцца да апісання іх у кнігах Жуля Верна.

Распрацоўшчыкі далі магчымасць ствараць суполкі гульцоў і знаходзіць рашэнне складаных задач разам з сябрамі. Але гэта яшчэ не ўсё. Праграма сінхранізацыі з iPhone дазваляе праходзіць гульню на мабільных прыладах, а затым інтэграваць вынікі ў асноўную гульню, усталяваную на камп'ютары.

Канец другой часткі нечаканы. Так і хочацца сказаць аўтарам: «Гэй, навошта так здзекавацца?»

Напрыканцы скажу, што гульня ўваходзіць у разрад карысных і пазнавальных. Усё ж давядзецца стварыць нямала ўсяго. А раптам і вы аднойчы трапіце на Таямнічы востраў?

***Вераніка Гамзюкова***

# Бярозка



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Дзянісава





Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.



Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку ??.07.2016 г.
Фармат 60x84 ⅛. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,58.
Тыраж 1567 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь






Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі — фота Алесі Галота.*

# Падарунак ад Вожыка

## КРЫЖАВАНКА «ЖЫЎ У ЛЕСЕ СМЕШНЫ ВОЖЫК»



**По гарызанталі: 2.** «І злаваўся // Дужа // Вожык // На ўсіх тых сараканожак, // У якіх па … ножак». З верша А. Зэкава «Вожык». **5.** Вожыкі ў чараду — … да прыбылі (прыкм.). **7.** Жывёліна, якая жыве ў лесе каля рэк і вадаёмаў. **9.** Пласціна для расчэсвання валасоў; у Старажытным Рыме ў якасці … выкарыстоўвалі скуркі вожыка з іголкамі, якімі вычэсвалі авечую поўсць. **10.** Каб таго сабаку ваўкі з'елі, што на свой … брэша (прык.). **12.** Прадукт працы. **13.** … вожыкі ў агародзе, а мяжа вытаптаная (прык.). **14.** «Бяжыць вожык — // Туп-туп! // Сам калючы , востры …». З верша А. Лойкі «Вожык». **15.** Мучністы салодкі плод. **16.** Вялікі кавалак чагонебудзь (разм.). **18.** «Вожык звіўся ў клубок // І маўчок — // І не чхне, … !» З паэмы Я. Коласа «Міхасёвы прыгоды». **21.** «Тут завохкала сарока, // Тут завохкала жаўна: // — Вожык — …? Ой, марока! // Вожык — доктар? Ох, мана!» З верша В. Гардзея «Вожык-лекар». **22.** Час касьбы. **23.** … вожыку — што хвіга раку (прык.).

**Па вертыкалі: 1.** Там, дзе водзяцца птушкі, ёсць вада; там, дзе чуецца …, жывуць людзі (прык.). **2.** Чакай Пятра (12 ліпеня) — з'ясі … (прык.). **3.** Адна партыя якой-небудзь гульні. **4.** «Вожык шэранькі паўзе, // На калючках … нясе». З верша А. Старынчыка «Знакаміты мядзведзь». **6.** Тое, што і ліхач (іран.). **8.** Бярозавы сок. **11.** Раніцай … сцелецца па вадзе — будзе добрае надвор'е (прыкм.). **12.** «Жыў у лесе смешны … . // Звалі … — Сярожа. // Быў падобны ён на ёлку, // Бо на ім раслі іголкі». З верша М. Бабраўскай «Вожык». **15.** Вожык маленькі, але і мядзведзю … прычыняе (прык.). **17.** Драпежная жывёліна; каб развярнуць скручанага ў клубок вожыка, … скочвае яго ўваду. **19.** Прадстаўнік старажытнага паўднёваамерыканскага індзейскага племені. **20.** Выпаленае месца ў лесе.

***Склаў Лявон Целеш***

*Аўтар Аляксандр Каршакевіч*



## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** На стале ў рад шэсць шклянак стаяць. Першыя тры пустыя, апошнія тры з вадой. Як зрабіць так, каб пустыя шклянкі чаргаваліся з поўнымі, калі дакранацца можна толькі да адной шклянкі?

**2.** Бацька з двума сынамі адправіўся ў паход. На шляху іх сустрэлася рака, на беразе — плыт, які можа вытрымаць на вадзе або двух сыноў, або бацьку. Як усім пераправіцца цераз раку?

**3.** Дзяўчына ніяк не магла заснуць. Яна варочалася ў ложку, садзілася, хадзіла па пакоі, зноў клалася ў ложак, але нічога не дапамагала. Тады яна падышла да тэлефона і кудысці патэлефанавала. А пасля лягла ў ложак і спакойна заснула. Чаму пасля тэлефоннага званка дзяўчына змагла заснуць?

Адказы:
Па гарызанталі: 2. Сорак. 5. Месяц. 7. Бабёр. 9. Грэбень. 10. Хвост. 12. Выраб. 13. Два. 14. Зуб. 15. Банан. 16. Кавал. 18. Хітруга. 21. Лекар. 22. Пакос. 23. Камар.
Па вертыкалі: 1. Смех. 2. Сыр. 3. Кон. 4. Грыб. 6. Скораснік. 8. Бярозавік. 11. Туман. 12. Вожык. 15. Боль. 17. Ліса. 19. Інк. 20. Гар.

Адказы на пытанні для знаходлівых:
1. Пераліць ваду з пятай шклянкі ў другую і паставіць пятую шклянку на месца.
2. Спачатку перапраўляюцца сыны. Потым адзін з сыноў перапраўляецца назад да бацькі. Перапраўляецца бацька, а сын на плыце плыве назад, да брата. І напрыканцы абодва сыны перапраўляюцца да бацькі.
3. У суседняй кватэры (праз сцяну) моцна хроп сусед. Дзяўчына сваім званком яго разбудзіла. Таму сама потым спакойна заснула.

# Каляндар Бярозка

Даты і падзеі

Што ўспомніць, чым заняцца, што прачытаць

## Жнівень



## Спас мядовы, яблычны, арэхавы і хлебны

Прыемныя заняткі: пячы аладкі, мачаць іх у мёд, каб быць здаровым цэлы год, яблыкі з дрэў абіраць, каб вітаміны дастаць, начыняць арэхамі слівы, каб заставацца шчаслівым, пячы хлеб у печы і распраўляць ад радасці плечы.



## Час падарожжаў

Рэальных, віртуальных і часопісных. Хочаш, дружа, завітаць на кірмаш у Стоўбцах? Чытай жнівеньскі нумар часопіса «Маладосць», рубрыку «Фотаальбом».

На «Мотальскія прысмакі» ці на Анненскі кірмаш у Зэльве? На «Кліч Палесся» ў Ляскавічы ці на фэст старадаўніх традыцый у Белавежу? Куды б ты, дружа, ні выправіўся з бацькамі падчас іх адпачынку, табе будзе што ўспомніць доўгімі школьнымі чвэрцямі. Угаворвай маму з татам і гайда падарожнічаць па роднай зямлі! А пасля напішы ў «Бярозку» артыкул-уражанне.



**7**

У 1932 годзе нарадзіўся знакаміты прафесар, доктар філалогіі Адам Мальдзіс, гісторык і літаратуразнаўца, журналіст і пісьменнік, сябра Уладзіміра Караткевіча і аўтар кнігі «Як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі». Прачытай яе, дружа, і напішы свой водгук. А мы перададзім яго аўтару.



**10**

У гэты дзень у 1898 годзе ў маёнтку Акунёва Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер — Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці) нарадзіўся пісьменнік Тадэвуш Даленга-Мастовіч, па творы якога «Знахар» зняты аднайменны фільм. Вельмі добрая карціна. Паглядзі, дружа.



ISSN 0320-7579




**28**

80 гадоў таму нарадзіўся Генадзь Бураўкін. Вывучы, дружа, на памяць любы верш паэта, каб атрымаць «дзясятку» ў школе. Скажы настаўніку: «“Бярозка” просіць узнагародзіць мяне адзнакай». Як доказ прад’яві часопіс.

